Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 4 (4702) 25 студзеня 2013 г.


5 «Нёман», «Полымя», «Маладосць». Крытычны агляд часопісаў


9 У Маскве вывучаюць беларускую культуру


10 Карціны П. Гуткоўскага раскажуць не толькі пра светлую будучыню


16 На Шляхецкі баль запрашае Віцебск

## Пісьменнікі — у Год кнігі

**Лея ХАШЫМБА**

Зразумела, для літаратараў кожны год — Год кнігі, але ў асабліва адметны для іх яны як ніколі яскрава ўсведамляюць сваю запатрабаванасць у грамадстве. Таму адказнасць і плён асаблівыя. Пра гэта сведчыць падвядзенне вынікаў Года кнігі абласнымі і гарадскім аддзяленнямі Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Традыцыйна перадусім увагу прыцягваюць раманы. Іх не так шмат (у асноўным — выдадзеныя сталічнымі пісьменнікамі), але ж не колькасць галоўнае. Галоўнае — узровень, а ён нешараговы. Ганад Чарказян «Горкі пах палыну», Мікалай Чаргінец «Сыны», Сяргей Зайцаў «Лівонскае люстра», Дзмітрый Дземідовіч «Памерці, каб выжыць», Валянцін Маслюкоў «Нараджэнне чараўніцы», Наталія Касцючэнка «Водгукі маўчання». За кожнай з гэтых кніг — багаты досвед, шчырае спачуванне, вялікая праца над Словам.

Кнігі прозы прадстаўлены аповесцямі «Выгнаннікі» Віктара Арцем'ева, «Ланцуг» Андрэя Федарэнкі, зборнікамі твораў Навума Гальпяровіча «На трапяткім агні», Алеся Макоўскага «Ціхае жыццё», Алеся Марціновіча «Успамін пра будучыню», Міколы Бусько «Сляды ад верасня», Анатоля Крэйдзіча «Роднае, шчымлівае», Яўгена Буловы «Пацалунак мядузы», «Крылы лёсу», Івана Пехцерава «Свет Радзімы». Зборнік «Самотная зорка Венера» аб'яднаў пад адной вокладкай творы пра каханне трох аўтараў-сяброў берасцейскай суполкі СПБ Зінаіды Дудзюк, Анатоля Крэйдзіча, Валерыя Гапеева.

«Паэтычны сезон» Года кнігі ўрадлівы не менш. Кнігі вершаў Генадзя Пашкова «Званы юнацтва», Валянціны Паліканінай «Пад ціхай зоркай прабачэння», Уладзіміра Мазго «Сакавіны», Андрэя Скарынкіна «Маціолы», Міхася Пазнякова «Даверам неба змераю», вершы і паэмы Міколы Мятліцкага «Чалавек падымае неба», Міколы Чарняўскага «Прызба, альбо Смяяцца не плакаць» — толькі мінскія паэтычныя здабыткі. А яшчэ — вершаваныя зборнікі гродзенцаў Віктара Куца («Раўнадзенства», «Восьмая палата»), Браніслава Ермашкевіча («Абярэг»), Алы Нікіпорчык («Гукам адзіным...»), магіляўчан Мікалая Салаўцова («Сінія валошкі»), Уладзіслава Кавалёва («Інкін каляндар»), кніга віцебскіх пісьменнікаў Васіля Рудога і Канстанціна Нілава «Трыпціх кахання».

Надзвычай адказная справа — выданні для дзяцей. Прыемна, што тут досыць шмат руплівцаў і нават вельмі актыўных. Аляксей Якімовіч выдаў чатыры дзіцячыя кнігі, па дзве — Уладзімір Мазго, Мікола Чарняўскі, Тамара Краснова-Гусачэнка, Міхась Пазнякоў.

**(Заканчэнне на стар. 2.)**

*Пытанне да творцы*

## Што для вас было самым важным у адказах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на пытанні айчынных і замежных журналістаў?



**Анатоль Крэйдзіч:**

— Я не першы раз удзельнічаў у прэс-канферэнцыі Кіраўніка дзяржавы. Быў і летась, раней. Але гэта была першая прэс-канферэнцыя, на якой і сам задаў пытанне. Прычым, яно ўзнікла спантанна, пасля адказу Аляксандра Лукашэнкі на пытанне рэдактара газеты з Гомеля. Там ішла гаворка пра дзяржаўную праграму «Прыпяцкае Палессе». І хаця Іванаўскі раён (а я ўзначальваю мясцовую «раёнку») не ўвайшоў у гэтую праграму, зацікавілі падрабязнасці. Прызнаюся: вельмі хваляваўся, задаючы пытанне. Усё ж упершыню з Прэзідэнтам размаўляў, дый папярэдне не запісваўся. Але ўсё атрымалася найлепшым чынам. Як падрабязна, з веданнем справы да тонкасцей і нюансаў, адказаў Аляксандр Рыгоравіч! Пасля мне падумалася: вось мне цяжка было адзін сказ прамовіць на прэс-канферэнцыі, а Прэзідэнт пяць гадзін запар, без перапынку і перадыху, адказваў на пытанні. Прычым, у немалой ступені вострыя, правакацыйныя нават. Спадабалася адкрытасць і шчырасць Кіраўніка дзяржавы. Больш за тое, улавіў і ў словах-разважаннях, і ў інтанацыях, і ў рухах тое, што заўсёды мяне як пісьменніка і журналіста ўражвала ў мудрых, загартаваных жыццём героях маіх нарысаў. Усім сваім выглядам ён усяляў упэўненасць у залу. Мне яна таксама перадалася. І яшчэ вось што важна: пяць гадзін праляцелі імгненна. А ўсё таму, што гутарка была наколькі зацікаўленай, настолькі і цікавай.



**Уладзімір Ліпскі:**

— Пяць гадзін жывой гаворкі з Прэзідэнтам. Той дыялог і ўражвае, і захапляе, а галоўнае — прымушае думаць, ацэньваць самога сябе: «А што канкрэтна ты зрабіў для сваёй Айчыны, які твой асабісты ўклад у росквіт Беларусі?»

Бальзамам на душу для мяне сталася абмеркаванне праблем педагогаў і дзяцей. Прэзідэнт зазначыў, што яны для яго заўсёды застаюцца важнымі, актуальнымі і лёсавызначальнымі. Сапраўды, калі дзеці — Божыя пасланнікі на зямлі, то настаўнікі — Героі Духу. Яны — тая гаючая крыніца, якая і дае дзіцяці веру ў жыццё і вечнасць, веру ў сябе і сваю Бацькаўшчыну.

Давайце ж мы, пісьменнікі, падтрымаем гэту веру сваімі натхняльнымі мастацкімі творамі, сваім літаратурным, палымяным Словам.



**Мікола Мятліцкі:**

— Я яшчэ раз пераканаўся ў тым, што наша маладая суверэнная краіна адбылася і палітычна, і эканамічна. Уразілі словы Прэзідэнта пра тое, што вакол нас хапае тых, хто не жадае прагрэсу, праліване крыві. І ў гэтым атачэнні няпроста выстаяць народу. Аднак упэўнены, што кіраўніцтву нашай дзяржавы хопіць мудрасці, каб і надалей будаваць сацыяльна абароненае грамадства, дзе закон стаіць на варце інтарэсаў сумлення. Духоўны пасыл Прэзідэнта таксама вельмі значны: мы адкрытыя ўсяму свету беларускай душой, сцвярджаем наша мастацтва на трывалых чалавечых каштоўнасцях. Радуе, што развіваецца эканоміка, багацее народная ніва, адбываецца мадэрнізацыя вытворчасці. Акрэсленыя падчас сустрэчы праблемы — вырашальныя, бо мы, беларусы, народ працалюбівы. Як яскрава адзначыў Прэзідэнт, для нас адзіны рэцэпт — больш працаваць. А будзе хлеб — будзе і песня!

## Зямля, дадзеная лёсам

Калектыў супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы (Аляксандр Цітавец, Сяргей Мілючэнкаў, Галіна Каспяровіч) атрымаў прэмію Расійскай акадэміі навук і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за выданне сумесна з расійскімі калегамі манаграфіі «Белорусы в Сибири» (Новасібірск, 2011).

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Кніга выдадзена па выніках праектаў, ажыццёўленых на працягу 2007 — 2009 і 2009 — 2011 гг. Адпаведна, расійскімі вучонымі выкананая праца на ўласнай тэрыторыі — збор і апрацоўка звестак пра жыццё нашых суайчыннікаў у Сібіры, беларускімі даследчыкамі падрыхтаваныя матэрыялы, прысвечаныя традыцыйнай культуры ўласна на Беларусі.

Нельга пераацаніць ролю гэтай кнігі ва ўмовах этнічнай стандартызацыі і, адпаведна, крызісу ментальнасці сучаснага чалавека: не толькі беларусаў на расійскіх землях або рускіх на Беларусі, але і жыхароў «мацярынскіх» тэрыторый. Акрамя такой глабальнай значнасці ўзнятая тэма надзвычай цікавая з навукова-метадалагічнага пункту гледжання. Традыцыйна этнаграфічныя праекты сканцэнтраваныя вакол жыцця толькі аднаго этнасу, у той час як зоны культурных кантактаў і ўзаемадзеянняў застаюцца на перыферыі ўвагі. «Сібірскае прыцягненне» (зямля без канца і без краю), якое справакавала моцны рух малазямельных беларусаў, рускіх, украінцаў на ўсход, заклікала і даследчыкаў зрабіць істотны ўнёсак у «монаэтнаграфічны» вакуум.

«Белорусы в Сибири» — даніна памяці і павагі тым, хто поруч з карэнным насельніцтвам закладваў тэхніка-эканамічны патэнцыял легендарнага рэгіёна Расіі. Сёння, аднак, трывожыць, што гэты патэнцыял разгортваецца хіба што па інерцыі. Насельніцтва Сібіры відавочна скарачаецца: адыходзіць сталае пакаленне, а моладзь імкнецца «на захад». Сапраўды, жыццё ў гэтым краі, несалодкае ў часы першапраходства і найбольш актыўнай міграцыі, стала яшчэ больш складаным і, не ў малой ступені, — з прычыны ментальнага адчужэння насельнікаў, «эмансіпіраваных» ад традыцыйных каштоўнасцей узаемадапамогі, узаемападтрымкі, узаемапавагі. Сучасны, урбанізаваны свет — свет індывідуалізаваны.

**(Заканчэнне на стар. 8.)**

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Юрыя Башмета з 60-годдзем. «Арганізаваны па Вашай ініцыятыве Міжнародны фестываль Юрыя Башметаператварыўся ў адну з самых яркіх і запамінальных падзей культурнага жыцця Беларусі і дапамог многім маладым музыкантам адшукаць шлях да зорных вяршынь», — зазначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка на сустрэчы з дырэктарам дэпартамента кантынентальнай Еўропы МЗС Францыі Эрыкам Фурнье падкрэсліў, што ў якасці прыярытэтаў сваёй дзейнасці бачыць развіццё эканамічнага супрацоўніцтва, пашырэнне гуманітарных сувязей з прыярытэтнасцю сферы культуры, а таксама рэалізацыю рэгіянальных кантактаў.

✔Беларусь і Францыя зацікаўлены ў супрацоўніцтве ў галіне кінематаграфіі. Чакаецца падпісанне адпаведнага двухбаковага пагаднення. На сёння ёсць дамоўленасць пра правядзенне Тыдня беларускага кіно ў Францыі.

✔Амаль 140 выданняў удзельнічае ў Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі». Пераможцы будуць названы 6 лютага, на адкрыцці XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

✔Заўтра Магілёў будзе афіцыйна аб'яўлены культурнай сталіцай Беларусі 2013 года і атрымае адпаведны сертыфікат.

✔Сёлета стартуе рэспубліканская акцыя «Мецэнат культуры Беларусі», прадугледжаная праграмай «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гады. Да 1 сакавіка Міністэрства культуры прымае заяўкі з імёнамі прэтэндэнтаў на гэтае званне.

✔На фінансаванне ўстаноў культуры Мінскай вобласці ў гэтым годзе плануецца накіраваць 427 мільярдаў рублёў, што ў 1,25 раза больш у параўнанні з мінулым годам.

✔Заяўкі на ўдзел у Міжнародным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск» і Міжнародным дзіцячым музычным конкурсе «Віцебск», што праходзяць у межах Славянскага базару, прымаюцца да 15 сакавіка.

✔Рэтраспектыва фільмаў народнага артыста Беларусі кінарэжысёра Міхаіла Пташука, прымеркаваная да 70-годдзя з дня яго нараджэння, пройдзе ў мінскіх кінатэатрах з 23 па 30 студзеня.

✔Віцебская абласная бібліятэка імя У. Леніна падрыхтавала цыкл віртуальных выставак экалагічнай літаратуры. Прымеркаваны яны да Года экалагічнай культуры і аховы навакольнага асяроддзя, аб'яўленага СНД.

✔Выстаўка «Белая сюіта» беларускага мастака Анатоля Кузняцова адкрылася на гэтым тыдні ў Міністэрстве замежных спраў.

✔Пяты баль праваслаўнай моладзі «Торжество любви» адбудзецца 27 студзеня ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі. Баль пройдзе па благаславенні Мітрапаліта Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

**Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

# Пісьменнікі — у Год кнігі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Спрычыніліся да высакароднай справы выхавання Алесь Бадак, Аляксандр Вашчанка, Валянцін Лукша, Алена Масла, Георгій Марчук, Алесь Жыгуноў, Васіль Жушма. Патрэбныя (бо надзённыя!) для падлеткаў кнігі выдалі берасцейскія пісьменнікі: Валерый Гапееў — аповесць «Ведзьміна тоня» і калектыў з 23 (!) аўтараў — кнігу «Закаханы ў Снягурку».

Публіцыстычныя выданні часцей за усё — пра ваеннае ліхалецце: кнігі Валерыя Чарапіцы «Сыходзілі ў паход на ворага», Мікалая Барысенкі «Год 1812 на шляхах Магілёўшчыны», Аляксея Кажамякі «Яны абаранялі Клімаўшчыну». Магілёўскія аўтары Яўген Соцікаў і Уладзімір Парахневіч выдалі кнігу нарысаў «Вайна вачыма дзяцей».

Гістарычны характар носяць таксама кнігі «Людзі і гады — 80» Яўгена Соцікава, «45 гадоў працы і стварэння» Уладзіміра Дуктава ў суаўтарстве з Мікалаем Хобатавым, «Васіль Быкаў. Камбат. Пісьменнік. Сябар» Анатоля Сульянава, «Вялікія князі ВКЛ» Вітаўта Чаропкі, «Святаполк-Мірскія» Эдуарда Карніловіча.

Даніна краязнаўству — зборнік Мікалая Барысенкі «Зямля магілёўская», альманахі «Прыдняпроўе — 2012», «Магілёўскі пошукавы веснік», выдадзеныя калектывам членаў Магілёўскага аддзялення СПБ. Выдатная краязнаўчая кніга «У краі каменных іспалінаў» створаная Віктарам Улюценкам. Тры новыя краязнаўчыя кнігі — з-пад пяра Ігара Пракаповіча: «Назвы вуліц горада Паставы», «Хinduлогія гісторыі Паставіцкага раёна», «Памятнікі Першай сусветнай на Пастаўшчыне». Цудоўнае выданне пра малую радзіму для дзетак — «Аршанскі буквар», складзенае Галінай і Сяргеем Трафімавымі. Надзвычай неабходнай і цікавай падаецца кніга Анатоля Дзенісейкі «Дастоева. Вытокі. Ад Ф. М. Дастаеўскага да нашых дзён», выдадзеная ў Брэсце. Аўтару яе належыць яшчэ адзін гістарычна-краязнаўчы праект: «Агдэмер. Святло палескіх зорак» — летапіс палескай вёскі з незвычайнай назвай.

Часта чуем пра недастатковую колькасць выданняў па літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўстве, пра адсутнасць адэкватнага аналізу твораў. Хочацца пажадаць, каб у пісьменнікаў і чытачоў запатрабаванымі сталі выдадзеныя ў мінулым годзе працы «Слова пра слова» Ірыны Шатыронак, «Максім Танк. Талент, заручаны з небам» Міколы Мікуліча, «Колер дабрыні» Казіміра Камейшы, «Янка Купала: жыццё і творчасць» Уладзіміра Гніламёдава.

Вядома, найпершы складнік пісьменніцкага плёну — выданне кніг, але мае значэнне і сувязь з чытачом: сустрэчы у бібліятэках, універсітэтах, каледжах, школах... Скарыстаная магчымасць пабачыць і пачуць «жывога» пісьменніка — значная падстава, каб набыць яго кнігі, зразумець яго думкі, паспачуваць героям. У стасунках з чытачом уражвае актыўнасць шэрагу пісьменнікаў Віцебшчыны: Тамара Краснова-Гусачэнка — 84 сустрэчы за мінулы год, Васіль Руды — 50, Сяргей Трафімаў — 49, Галіна Трафімава — 44. І гэта далёка не ўсе «спадзвіжнікі».

Напрыканцы мінулага года група пісьменнікаў Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі — Таццяна Дашкевіч, Рагнед Малахоўскі, Алег Буркін, Сяргей Карыцька, Алена Брава, Генадзь Аўласенка — атрымала прэміі Мінскага аблвыканкама за кнігі, выдадзеныя ў апошні час. Дарэчы, Алена Брава акрамя таго, што друкавалася ў Беларусі, выпусціла дзве кнігі ў ЗША на рускай мове і надрукавала дзве свае аповесці ў часопісе «Сибирские огни». Расійскія калегі адзначылі творчасць Алены Брава медалём Канстанціна Сіманава. Пісьменнік Дзмітрый Вінаградаў, які жыве і працуе ва Уздзе, стаў лаўрэатам некалькіх прэстыжных міжнародных літаратурных конкурсаў.

У 2012 г. свае новыя кнігі выдалі Браніслаў Зубкоўскі, Павел Жукаў, Валянціна Гіруць-Русакевіч, Алена Брава, Генадзь Аўласенка, Зіновій Прыгодзіч, Алесь Карлюкевіч, Рагнед Малахоўскі і інш. Падрыхтаваны да друку калектыўны зборнік твораў членаў СПБ, якія працуюць у складзе Мінскага абласнога аддзялення.

Віншуем усіх саўдзельнікаў Года кнігі: пісьменнікаў, выдаўцоў, чытачоў, выкладчыкаў літаратуры, бібліятэкараў! Віншуючы «з Кнігай», віншуем з Думкай, з Марай, з Пачуццем — з Жыццём!

# Прапарцыянальна таленту

Прынцып «ніколі не хвалі сябе сам, няхай пра цябе скажуць людзі» юбіляр Мікола Чарняўскі, вядомы паэт, лаўрэат шматлікіх прэмій, на працягу жыцця вытрымлівае бездакорна. Не стала выключэннем і мерапрыемства ў Доме літаратара, прысвечанае яго 70-годдзю. На вечарыне пра заслугі юбіляра гаварылі іншыя. Пра яго шматгадовую працу з таленавітымі дзецьмі, якая дазваляе сказаць, што ў краіне існуе паэтычная школа Міколы Чарняўскага. Пра паспяховую рэалізацыю як паэта, празаіка, перакладчыка. (Уражваў стэнд з кнігамі, выдадзенымі за 55 творчых год.) Пра дабрыню, без якой немагчыма пісаць для дзяцей. І пра сціпласць, прама прапарцыянальную таленту, — выключна рэдкую чалавечую рысу.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА, фота Кастуся Дробава**

Выступоўцы — першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, старшыня Мінскай гарадской пісьменніцкай арганізацыі Міхась Пазнякоў, галоўныя рэдактары вядучых літаратурных часопісаў Алесь Бадак, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Ліпскі, супрацоўнікі выданняў, што з радасцю друкуюць творы Міколы Чарняўскага, — «Бярозкі», «Пачатковай школы», «Пралескі», калегі і сябры, тыя, хто лічыць Міколу Мікалаевіча сваім настаўнікам на шляху паэзіі, не былі скупымі на эпітэты. І хіба перабольшванне, што паэт — легенда нашай літаратуры? Яго вершы сталі класікай у беларускіх падручніках. За вялікі ўклад у айчынную літаратуру юбіляр быў адзначаны медалём СПБ і Ганаровай граматай.

Віншавалі са святам родныя: вёў імпрэзу зяць Міколы Чарняўскага, саліст ансамбля «Свята» Вячаслаў Статкевіч (калектыў пад мастацкім кіраўніцтвам Анатоля Кашталапава бліскуча выступіў на сцэне Дома літаратара). Песню ў падарунак падрыхтавала ўнучка Ангеліна і прызналася, што яе дзядуля — лепшы на свеце. Выступалі сябры літаратурнай суполкі «Купалінка» і калектыў Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі.



Вершы паэта гучалі ў выкананні актрысы Тамары Нікалаевай і кампазітара Эдуарда Зарыцкага.

А сам юбіляр, як заўсёды, быў нешматслоўны. Падзякаваў выступоўцам, параіў чытачам студзеньскія нумары выданняў, у якіх багата публікацый да слаўнай даты, і прачытаў два вершы. Адзін — цёплы і гумарны, які з задавальненнем вывучаць не толькі дзеці, але і дарослыя. Другі — трыялет з цыкла, створанага пад уплывам паэзіі Багдановіча. Класічная форма верша, нібы каштоўная аправа, падкрэсліла моц радка. Наперадзе — адкрыццё новых граняў таленту паэта.

# Калі сэрца на разрыў

**Дар'я ШОЦІК**

У Доме літаратара адбылася літаратурна-музычная імпрэза вядомага паэта, члена Саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Расіі Андрэя Скарынкіна. Нагодай для яе стаў юбілей творцы. І, як заўсёды, гучалі вершы юбіляра, а таксама цудоўныя рамансы ў выкананні кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Алега Чыркуна. Дарэчы, на розных канцэртных пляцоўках музычныя творы на вершы Андрэя Скарынкіна выконваюць Сяргей Кравец, Рыгор Палішчук, Іван Тамашэвіч, Іосіф Кабзон ды іншыя.

«Калі чалавеку дадзены талент Богам і бацькамі, то гэты талент сапраўды рознабаковы. Андрэй Скарынкін — своеасаблівы брэнд сучаснай паэзіі», — зазначыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Актрыса Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» Ірына Нарбекава ўпэўнена, што Андрэй Скарынкін з тых людзей, якія не могуць маўчаць, калі сэрца на разрыў.

Падчас творчага вечара можна было набыць зборнікі паэта.

## Гісторыя

# Кнігазборы з Куцейна

Нагодай для чарговай сустрэчы сталічнага клуба бібліяфілаў у кнігарні «Кніжны салон» стала прэзентацыя манаграфіі Юрыя Лаўрыка «Кнігі і кнігазборы куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII ст.». Гэтае выданне пабачыла свет напрыканцы мінулага года ў выдавецтве «Тэхналогія».

Даследаванне Юрыя Мікалаевіча абапіраецца на калекцыю старадрукаваных кніг, што захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, і распавядае пра выдавецкую і кнігазбіральніцкую дзейнасць брацій праваслаўнага Богаяўленскага манастыра ў Куцейне ў сярэдзіне XVII ст. — найбольш яскравы перыяд яго гісторыі.

**Юзэфа ВОЎК**

**Падпісвайцеся на «ЛіМ»**

*Для індывідуальных падпісчыкаў:*

**1 месяц — 17 140 руб.**
Падпісны індэкс — 63856

*Ведамасная падпіска:*

**1 месяц — 37 651 руб.**
Падпісны індэкс — 638562

*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*

**1 месяц — 10 890 руб.**
Падпісны індэкс — 63815

*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*

**1 месяц — 27 864 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

## Літабсягі

# Пра што пішуць дзеці?

Дзіцячы літаратурны конкурс навагодніх пасланняў «Гуляй, зіма, твая часіна!..» скончыўся.
18 студзеня ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа віншавалі пераможцаў і ўдзельнікаў.

**Анастасія ГРЫШЧУК, фота Уладзіміра Сіза**



*Пераможцы Дар'я і Настасся Лукашэнка.*

У склад журы літаратурнага конкурсу для вучняў сярэдніх школ уваходзілі дырэктар музея Зінаіда Камароўская, пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Ліпскі і Алена Масла. Пераможцы вызначаліся ў дзвюх групах — малодшай (1 — 3 класы) і старэйшай (4 — 5 класы). Акрамя пераможцаў заахвочвальныя прызы атрымалі-некаторыя ўдзельнікі. У малодшай групе адразу два пераможцы. Першае месца занялі сёстры, унучкі Прэзідэнта нашай краіны — Дар'я і Настасся Лукашэнка, вучаніцы другога і трэцяга класаў гімназіі № 16. Дар'я напісала апавяданне пра чароўнага адзінарога, з якім пазнаёмілася ў навагоднюю ноч і адправілася ў краіну цудаў. Настасся ж падарожнічала па снежнай краіне, і спадарожнікам яе быў снегавік.

Што да старэйшай групы, то першае месца ўзяў Максім Краўчанка, вучань 5 класа гімназіі № 30 г. Мінска.

— Я пісаў пра тое, што здарылася са мной пад Новы год. А са мной часта здараецца нешта падобнае. Праўда, без чараўніцтва. Калі мы рыхтаваліся да Новага года, тата заўважыў, што лялечны Дзед Мароз паламаўся, і звёз яго на лецішча. Але Снягурка засумавала без яго і з дапамогай вернага сябра Ворана паляцела на лецішча ратаваць Дзеда Мароза. Згледзеўшы, што Снягурка таксама знікла, тата знайшоў уцекачоў і вярнуў іх дадому. Сюжэт я прыдумаў сам. Мама толькі дзве памылкі выправіла.

Максім расказаў, што і да гэтага складаў розныя гісторыі. Друкаваць не друкаваў, але вельмі хацеў бы.

Зінаіда Камароўская, дырэктар музея, адзначыла, што большасць пераможцаў — навучэнцы сталічных гімназій № 16 і № 30. Настаўнікам гэтых устаноў музей накіруе адмысловыя падзякі за выхаванне таленавітых дзяцей.

Цікава таксама, што часцей за ўсё дзеці пісалі пра Радзіму і сям'ю. Гэта не можа не радаваць.

## Арт-лінія

# Прызванне — жывапіс

Выстаўка жывапісу выбітнага сучаснага беларускага мастака-пейзажыста Кастуся Качана будзе праходзіць да 30 студзеня ў «Галерэі Мастацтва».

**Дзіяна КАРОЛЬ**

К. Качан — яскравы прадстаўнік рэалістычнай школы жывапісу, работы якога прысвечаныя пераважна тэмам чалавека і яго любові да роднага краю, традыцыйнай народнай культуры і побыту. Праз сваю творчасць аўтар імкнецца прыцягнуць увагу да асаблівасцей характару беларусаў, нашага менталітэту.

На карцінах мастака не знойдзеш прыкмет урбанізацыі. Наадварот, яго творы распавядаюць пра прыгажосць прыроды, самабытнасць і непаўторнасць мястэчак, не кранутых тэхнічным прагрэсам пейзаж. З дапамогай жывапісу мастак вылучае з рэальнага жыцця прастору вечнасці, якую можна знайсці нават у асяродку імклівых працэсаў развіцця гарадоў. Напісаныя на адным дыханні, работы адрозніваюцца складаным каларытам, тонка згарманізаванымі па тоне і колеры, як у імпрэсіянізме, халоднымі і цёплымі адценнямі.

Асаблівасцю жывапісу Кастуся Качана з'яўляецца свежасць, яскрава падкрэсленая фактура алейнага пісьма, экспрэсіўная палітра густой фарбы. Букеты рознакаляровых восеньскіх кветак, занесеныя бялюткім снегам ускрайкі вёсак, хмурная ранняя вясна з бруднымі лапінамі апошняга снегу — мастак нібы сцвярджае, што ў прыроды няма кепскага надвор'я. Наадварот, кожная яго праява — дзіва, пабачыць і адчуць якое можа кожны, галоўнае — спыніцца хаця б на хвіліну і агледзецца, адчуць сябе часткай беларускай прыроды, а з ёй — беларускага народа.



*«У канцы лета». 2012. Палатно, алей.*

Нарадзіўся будучы мастак у 1950 г. у вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна. У 1975-м скончыў фізічны факультэт БДУ, але так і не працаваў па прафесіі. І прыйшло канчатковае разуменне, што яго прызванне — жывапіс. Гады плённай працы ў абраным кірунку не прайшлі дарма — з 1980 года К. Качан удзельнічае ў рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках, у 1987-м стаў сябрам Беларускага саюза мастакоў. Сёння яго творы ёсць у розных музеях Беларусі, у прыватных калекцыях у ЗША, а таксама ў некаторых краінах Еўропы і Азіі.

## Повязі

# Супраць плыні

Кніга з такой назвай належыць славутаму харэографу Міхаілу Фокіну. Зрэшты, гэта словазлучэнне характарызуе і творчасць яго паслядоўніка Леаніда Якабсона, з чыёй спадчынай ужо сёння могуць пазнаёміцца беларускія аматары балета.

**Даніла АРЦІМОВІЧ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета Беларусі**

Айчынныя прыхільнікі харэаграфіі рыхтуюцца да сустрэчы з Санкт-Пецярбургскім акадэмічным тэатрам балета імя Леаніда Якабсона, гастролі якога пройдуць на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Калектыў «Харэаграфічныя мініяцюры» быў заснаваны ў 1969 годзе і стаў першым у Расіі тэатрам, што існаваў асобна ад опернай трупы. Назва тлумачылася проста: харэаграфічная мініяцюра была любімай формай у творчасці харэографа, які імкнуўся праз яе выйсці за межы халоднай патэтыкі афіцыйнага мастацтва і прапанаваць альтэрнатыву «вялікаму стылю» Вялікага тэатра.

З моманту заснавання і да смерці ў 1975-м трупу ўзначальваў харэограф Леанід Якабсон. Пераемнікі балетмайстра імкнуліся захаваць яго спадчыну, але адначасова пашырыць рэпертуар. Таму сёння на сцэне гэтага тэатра ідуць творы самога Якабсона, класічныя пастаноўкі, а таксама сучасная харэаграфія. Айчынныя балетаманы могуць пазнаёміцца са спектаклямі, што належаць да першых дзвюх катэгорый. Класіка прадстаўлена балетам «Лебядзінае возера» Пятра Чайкоўскага (паказы адбудуцца 26 і 27 студзеня). Кананічная харэаграфія Марыуса Пеціпа і Льва Іванова ідзе ў рэдакцыі Канстанціна Сяргеева, знакамітага класічнага танцоўшчыка, чый дуэт з Галінай Уланавай увайшоў у гісторыю сусветнага балета.



*Сцэна са спектакля «Клоп».*

Але яшчэ большую цікавасць прадстаўляюць цыкл харэаграфічных мініяцюр «Радэн» і аднаактовы балет «Клоп», якімі сёння, 25 студзеня, тэатр адкрывае гастролі. На стварэнне цыкла Якабсона натхніла пластыка скульптур Агюста Радэна. Так з'явіліся кампазіцыі «Вечная вясна» (1958), «Пацалунак» (1958), «Вечны ідал» (1958), «Адчай» (1962), «Мінатаўр і німфа» (1962) і «Экстаз» (1975). Пазней мініяцюры былі аб'яднаныя ў харэаграфічны цыкл «Радэн». Гэта цэласны твор пра каханне ў розных яго праявах, а таксама пераасэнсаванне бессмяротных твораў вялікага скульптара.

Як прызнаваўся сам Л. Якабсон, ідэя балета «Клоп» (1962) была падказана вобразамі Маякоўскага. «Не адным яго канкрэтным творам, хоць відавочную сюжэтную аснову стварае «Клоп». Але <...> усёй яго грамадзянскай шырынёй, усім пафасам яго сатыры, усім тэмпераментам, усім духам самага сучаснага сучасніка — Маякоўскага».

## Абрысы

➤ Выстаўка «Не загаснуць зоркі ў небе» з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы адкрыецца 27 студзеня ў Вільнюсе, у Доме настаўніка. І прысвечана яна 100-годдзю першай пастаноўкі п'есы «Паўлінка». У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы, што адлюстроўваюць гісторыю ўвасаблення камедыі на розных сцэнічных пляцоўках, рукапісы Янкі Купалы, фотаздымкі сцэн са спектакля, а таксама сцэнічныя касцюмы да «Паўлінкі» ў пастаноўцы БДТ-1 1920 — 1940-х гадоў. Імпрэза ладзіцца ў межах Дзён культуры Беларусі ў Літве.

**Алеся БАЦЮСЬ**

➤ Польскі часопіс «Праваслаўны агляд», які выдаецца вось ужо 28 гадоў, амаль з самага пачатку свайго існавання ўручае прэміі імя князя Канстанціна-Васілія Астрожскага. Прысуджаюцца яны за асветніцкую, адукацыйную, навуковую, культурную і дабрачынную дзейнасць. У розныя гады яе атрымалі беларусы прафесар, перакладчык Іван Чарота, протаіерэй Сяргей Гардун, мастак-ювелір Мікалай Кузьміч і іншыя. Лаўрэатамі апошняй, 24-й прэміі сталі праваслаўны тэлеканал «Саюз» (Расія), прафесары Аляксей Осіпаў (Расія) і Каліст Уэр з Вялікабрытаніі, Брацтва святых Кірыла і Мяфодзія (Беласток), а таксама Першае бялградскае пеўчае таварыства і сербскі тэніcіст Новак Джокавіч.

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

➤ Складаную і прыгожую гісторыю пра каханне, страчанае і будучае, пра творчасць і натхненне расказа малады рэжысёр Д'Арці ў пластычным мюзікле «Двое». Пасля Дня святога Валянціна вам прапануюць зазірнуць у душу і пашукаць адказы на самыя спрэчныя пытанні ды ўсур'ёз паразважаць над каханнем, адчуўшы ўсе эмоцыі, што абудзяе гэтае пачуццё. Прыходзьце ў ДК «МАЗ» 28 лютага а 19-й гадзіне.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ у сувязі са смерцю пісьменніка Мікалая ЕЛЯНЕЎСКАГА выказваюць шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

Калектыў РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» глыбока смуткуе з прычыны смерці Мікалая ЕЛЯНЕЎСКАГА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Супрацоўнікі РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» выказваюць шчырыя спачуванні карэспандэнту Раісе Мікалаеўне Марчук у сувязі са стратай БАЦЬКІ.

Супрацоўнікі газеты «Літаратура і мастацтва» выказваюць шчырае спачуванне Раісе Мікалаеўне Марчук у сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю БАЦЬКІ.

# Кароль беларускай пародыі

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

Канец лета 1985 года. Пачатак перабудовы! Ажывіліся, разняволіліся журналісцкія калектывы. А працаваў я ў той час рэдактарам горацкай раёнкі.

У адзін з такіх жнівеньскіх дзён уваходзіць у кабінет чалавек. А я толькі сабраўся пайсці на абед. Як звычайна, працягваю руку для прывітання.

— Я Юрчанка. Па справах завітаў.

— Дык гэта ж вядомы зямляк! — усхваляваўся я. — Прапаную, Георгій Фёдаравіч, калі ёсць час, пайсці да мяне — крыху перакусім, заадно і пра справы пагаворым...

Справа датычыла публікацыі ў раёнцы яго артыкула пра вучоната, земляка Паўла Кабеку...

У прыхожай Юрчанка адразу падступіўся да кніжнай шафы. Бібліятэка ў мяне багатая і займае ў кватэры даволі месца. Падпісныя выданні, сусветная літаратура, розныя энцыклапедыі, даведнікі, беларускі фальклор... Бачу, госць прагна прыглядаецца да палічкі, дзе стаялі кнігі беларускіх пісьменнікаў.

— На жаль, Георгій Фёдаравіч, няма тут вашых кніжак.

Юрчанка быццам бы крыху і спахмурнеў...

— А тут мой рабочы кабінет, — працягваю імправізаваную экскурсію па кватэры.

Паліца з кнігамі, сшыткамі, рознымі паперамі. На стале ля акна — старэнькая пішучая машынка «Украіна», а побач — стос кніжак... Георгія Юрчанкі. Невялічкія зборнікі пародый, знакамітыя слоўнікі мсціслаўскіх гаворак... Георгій Фёдаравіч іх адразу заўважыў.

— Вашыя кніжкі, — кажу, — у мяне заўсёды пад рукой. Вось толькі... без аўтографаў...

Георгій Фёдаравіч тут жа сеў за стол, і праз колькі хвілін усе яго кнігі былі падпісаныя. На зборніку «Парнаскія ўхабы», напрыклад, з'явіўся такі запіс: «Міхасю Уласенку — хай на вашай адказнай і не зусім бяспечнай працы сустракаецца паменей ухабаў усялякіх, у тым ліку і парнаскіх. Жнівень 1985».

А праз некалькі дзён я атрымаў з Мінска важкую бандэроль з кнігамі Юрчанкі, якіх не хапала ў маёй бібліятэцы. Вядома, з аўтографамі.

Цяпер, распавёўшы пра першую сустрэчу з адным з маіх любімых беларускіх пісьменнікаў, мушу звярнуцца да «ўхабаў», утрымацца на якіх мне дапамагала творчасць Георгія Юрчанкі.

На плыні двухмоўя я выхоўваўся з маленства. У гады вайны ў нашай хаце часова асталяваўся штаб ваеннага падраздзялення Савецкай Арміі. Амаль кожны дзень адбываліся нейкія сходы... І ўсюды — руская мова...

Пасля вайны пераросткам пайшоў у школу. Закончыўшы 7 класаў, падаўся ў Мсціслаўскае вучылішча механізацыі. Працаваў трактарыстам, служыў на Балтыйскім флоце. Затым Сібір, цаліна... Два гады — на будоўлях Брацкай ГЭС. Быў актыўным членам літаб'яднання пры брацкай раёнцы «Красное знамя», мяне нават дэлегавалі на тыднёвую творчую канферэнцыю ў Іркуцк, дзе я займаўся ў секцыі вядомых паэтаў Аляксандра Межырава і Марка Собаля... Матчына мова прыходзіла толькі ўва сне. Праўда, зрэдку чытаў «Чырвоную змену», якую выпісваў карэспандэнт газеты, зямляк Іван Бязрукаў.

У 1965-м нарэшце вярнуўся ў Беларусь. Завітаў да родзічаў у Крычаў, прыхапіўшы з сабой нізку лірыкі — вядома, рускамоўнай: можа, думаю, у тутэйшай газеце надрукуюць. Рэдактар Ягор Бясплаў пагартаў мае паперкі і сказаў тонам загаду: «У сельгасаддзел! Літрабам»...

Так я, з сямікласнай адукацыяй, не здольны не тое што напісаць, але і слова вымавіць пабеларуску, стаў літработнікам раённай газеты. Пісаць жа трэба было на літаратурнай мове. Вось тут я аказаўся поўным нулём. Але ў нас была Паліна Фамінічна — цудоўны чалавек і першакласная машыністка. Я пісаў па-руску, дыктаваў, а яна імгненна ўсё перакладала.

Аднойчы Фамінічна сказала: «Колькі ўжо я табе буду перакладаць? Пішы-ка ты, як усе, па-людску, а я потым папраўлю». Правіла яна многа, ды і было што. Яна ж прапанавала мне больш чытаць.

У рэдакцыі была свая невялічкая бібліятэка. На стале ляжалі падшыўкі «Звязды», «ЛіМа», «Чырвонкі»... Сам выпісваў і чытаў часопіс «Вожык». Я стаў «сваім чалавекам» у раённай бібліятэцы і кніжнай краме, дзе ў асноўным цікавіўся гумарыстыкай.

З творчасцю Георгія Юрчанкі ўпершыню сутыкнуўся, здаецца, менавіта ў «ЛіМе» і «Вожыку». Потым трапілі ў рукі невялічкія зборнікі «Распрэжаны Пегас» і «Вярхом на "Вожыку"»... У другой палове 1960-х, калі я ўжо крыху «абеларусіўся», прыдбаў яго «Дыялектны слоўнік» і «Народную сінаніміку», а пазней — знакамітыя слоўнікі гаворак Мсціслаўшчыны. Аднойчы ў Магілёве ў кніжнай краме заўважыў двухтомнік «Анталогіі беларускай пародыі». Асноўная маса матэрыялаў у першым томе належыць пяру Юрчанкі, а другі том, празаічны, цалкам складзены з твораў Георгія Фёдаравіча. Гэта быў апошні экзэмпляр, які я паспеў забраць. Усе кнігі майстра слова сталі для мяне падручнікамі. Перш чым узяцца за напісанне газетнага матэрыялу, я разгортваў кніжку Юрчанкі ці іншага беларускамоўнага пісьменніка, прачытваў старонку-другую, і гэта было своеасаблівым штуршком, які настройваў на беларускамоўны лад. Творы Юрчанкі імпанавалі мне і сваімі мастацкімі якасцямі, і тонкім дасціпным гумарам. Прачытаеш старонку-другую — і ты ўжо настроены на моўнастылістычны, да таго ж яшчэ і іранічны, лад аўтара.

Хтосьці заўважыць: маўляў, як можна вучыцца пісаць на пародыях Юрчанкі, калі ў яго ўсё пра тое, як не трэба пісаць. Канечне, калі не мець пачуцця гумару, аналітычнага погляду на рэчы, тут бачыцца праблема. Але ж у гэтых «няправільных» тэкстах ёсць свая, афарбаваная тонкай іроніяй, логіка.

Па-другое, на пачатку перабудовы я канчаткова развітаўся са сваёй «лірыкай». Нічога істотнага, нічога новага ў гэтым жанры я не сказаў і сказаць не мог. Тым больш што беларускую мову асвоіў настолькі, што маіх набыткаў хапала хіба толькі на артыкул у раёнку.

У перадпенсійным узросце вырашыў я пачаць усё нанова. Абраў для сваіх творчых эксперыментаў кароткую форму — эпіграму, міні-пародыю, у асноўным чатырохрадкоўі, якія потым Георгій Юрчанка назаве «карацелькамі». Першая кніжка «Мелочи жизни» з прадмовай Анатоля Казлова стала прыступкай на Парнас — мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

На той час, калі не лічыць нашай першай неспадзяванай сустрэчы ды рэдкай перапіскі, мы з Георгіем Фёдаравічам былі, бадай што, незнаёмыя. Праз сталічных гасцей я вырашыў перадаць зборнік свайму галоўнаму завочнаму настаўніку. Якой рэакцыі мог чакаць правінцыйны вершаплёт ад прафесійнага пародыста, патрыярха беларускай гумарыстыкі, можна было толькі здагадвацца. І вось я дачакаўся ліста ад Георгія Фёдаравіча.

«...Дзякую за кніжку. Прачытаў. Шчыра зайздрошчу, колькі ў ёй трапных назіранняў, паэтычных знаходак, глыбокага пранікнення ў наша складанае жыццё, умення ў звычайным, паўсядзённым убачыць адметнае, арыгінальнае. Цалкам згодны з уводным словам да кніжкі Анатоля Казлова... А цяпер колькі слоў былога выдавецкага рэдактара...»

Тут мой шаноўны маэстра, указваючы на многія моўнастылістычныя хібы, ушчэнт разбівае мяне за... «ненарматыўную, пахабную лексіку».

У цэлым жа, што самае важнае, Юрчанка мяне зразумеў і прыняў, а тым самым і натхніў. А ненарматыўную лексіку можна скасаваць адным росчыркам алоўка.

Другая кніжка «Базар житейской суеты» выйшла пад рэдакцыяй Георгія Юрчанкі з яго ж прадмовай. Я даслаў Георгію Фёдаравічу рукапіс і атрымаў каля паўтары сотні істотных паправак і прапаноў. І ўступнае слова рэдактара для мяне — найвялікшы гонар, мабілізуючая натхняльная сіла.

Неправамерна, на мой погляд, творчасць Георгія Юрчанкі — яго пародыі і эпіграмы, як вершаваныя, так і празаічныя — ставіць у разрад сатыры. Тонкі гумар, дасціпная іронія — калі ласка, а з'едлівай, тым больш абразлівай, сатыры ні ў воднай пародыі не знойдзеце. Іншая справа — гумар. Гэта ўменне прыкмеціць смешны бок з'явы, паказаць яе ў незласліва лагоднай, жартаўлівай, дасціпнай форме. У Юрчанкі няма фанабэрыі, ён не выкрывае злоўжыванняў, не бічуе аўтара за памылкі, а лагодна, добразычліва іранізуе з тых ці іншых адхіленняў ад стылістычных ці іншых нормаў. У эпіграме можна пусціць у ход і папружку («*Полу-милорд, полу-глупец...*»), а ў пародыі такая вольнасць можа спарадзіць масу ворагаў. Не чуў і не чытаў, каб хто з тых, каго парадзіраваў Юрчанка, моцна пакрыўдзіўся на яго.

У практычнай псіхалогіі ёсць тэрмін *рэфрэймінг*. Дакладны пераклад гэтага слова — перафарміраванне. Выказаць думку па-свойму, успрыняць яе з іншага пункту гледжання. Возьмем, да прыкладу, пародыю Георгія Юрчанкі, дзе абыгрываюцца два радкі з верша вядомай паэтэсы:

*Хацела сцежкай крочыць гладкай,*
*А спатыкнулася аб пень.*

Вось якія асацыяцыі выклікалі яны ў парадыста:

*Прыміце ўсе наказ мой строгі:*
*Ісці — не песні гучна пець.*
*Не ўсюды роўныя дарогі,*
*Куды ні пойдзеце,*
*Пад ногі*
*Патрэбна ўважліва глядзець.*

Тут не толькі адэкватны адказ. Сама пародыя напісана памастацку, з густам. Без насмешкі і тым больш — з'едлівай крытыкі. Гэта ўсмешка парадыста.

Па сутнасці, любую думку можна выказаць у бязмежнай колькасці варыянтаў: вусна і пісьмова, у рамане ці ў двух радках афарызма, у лірычнай форме ці ў пародыі... Таму парадыст павінен мець багатую, разняволеную фантазію. І канечне, быць літаратарамуніверсалам. Якім і з'яўляецца патрыярх беларускага гумарыстычнага цэха, кароль беларускай пародыі Георгій Юрчанка.

# Простыя рэчы, простыя словы...

**Пра самае складанае і значнае заўжды гавораць вельмі проста. Бо ў размове пра сутнаснае нельга збівацца на фальш.**

**Анастасія ГРЫШЧУК**

У кнізе Дар'і Лёсавай «Туга зямная» ўсё проста: паэтычная мова пазбаўленая нагрувашчванняў, зашыфраваных звышсэнсаў і псеўдаінтэлектуальнага «флірту» з чытачом, — што, трэба адзначыць, цяпер надзвычай папулярна ў маладых паэтаў.

Для таго, каб так чыста і ясна пісаць, трэба гэтак жа чыста і ясна бачыць. А для таго, каб бачыць так, як бачаць дзеці, што прамаўляюць ісціну, трэба мець нічым не замкнёны зрок, шчырую душу, а разам — мужнасць і пэўную жыццёвую мудрасць. Гэта шчодрыя дарункі жыцця, але атрымліваюць іх, на жаль, толькі тыя, хто прайшоў праз выпрабаванні.

Не ведаю, што перажыла спадарыня Дар'я, але мудрасць такая, і шчырасць, і празрысты паэтычны зрок ёй дадзеныя. А разам з мудрасцю — нязменная туга. Часам яна, як у Пушкіна, светлая. Часам — важкая. Адсюль, пэўна, і назва зборніка — «Туга зямная».

Заўважны гэты сум не толькі па змесце вершаў, але па ледзь улоўнай інтанацыі, з якой паэтка прамаўляе. Думаецца, калі б мы паслухалі, як Дар'я Лёсава чытае свае вершы, то пачулі б ціхі, але ўпэўнены голас.

Паэзія Д. Лёсавай пяшчотная, светлая і шчымлівая — падобная да заходу сонца, але не ярка-палымянага, на які балюча глядзець, а прыглушанага туманам, залацістым ад апошніх промняў (тут, дарэчы, змест кнігі перагукаецца з яе вокладкай).

Некалькі разоў гаварылася пра бясхітраснасць мовы, але гэта ні ў якім разе нельга блытаць з банальнасцю. Зусім наадварот. Згадзіцеся, складана двума-трыма колерамі перанесці на палатно маляўнічасць заходу сонца. Гэтак жа складана стварыць яркі вобраз простымі, не раз скарыстанымі сродкамі. Тым не менш Дар'я Лёсава патрапіла зрабіць уласныя адкрыцці.

Пранізліва гучаць радкі

*Я ўратавалася ад зла,*
*Я з пекла вынесла ўсе ружы!*

Запамінальны партрэт Сяргея Грахоўскага стварыла паэтка ў вершы, яму прысвечаным:

*— Ой, хто ты, дзетачка,*
*адкуль?*
*Ты пішаш вершы? —*
*Ён так глядзеў —*
*бы ўжо адтуль,*
*Як нетутэйшы!*

*— Мая дарога ўжо сышла,*
*А я — ступаю...*
*...Я ў позірку Яго знайшла*
*Дарогі краю...*

Асобна адзначу твор «Белыя вершы — чорныя слёзы...» Напачатку ён падаецца крыху банальным, усё — праз антытэзу «белае-чорнае»; здаецца, што маладая паэтка не ўтрымалася ад спакусы скарыстаць эфектны прыём. Аднак пры ўдумлівым прачытанні пачынаеш бачыць больш: не проста троп, але глыбокую сімволіку жыцця і смерці, надзеі і біды. У рэшце рэшт, апошнія шэсць радкоў усё ставяць на свае месцы:

*О, як галосяць шчымлівыя душы*
*Каля самотных вакон!*
*Бабкі то голас?*
*Ці дзеда Ігната?*
*А можа, прадзед Максім?*
*На фотаздымачку —*
*чорная хата*
*Перад суровацю зім.*

Змрочнасць і трагізм адсылаюць нас да купалаўскай традыцыі з яго «Пахаджанамі», «Смейся!», якая, у сваю чаргу, вырастае з эпохі барока і эстэтыкі «скокаў смерці».

Калі працягваць тэму пераемнасці, то міжволі згадваецца Ганна Ахматава: падобная вобразнасць — песня, рута, раса, кветкі, вокны, сад і г. д. — але ўсё гэта ў той ці іншай ступені сустракаецца ў кожнай жанчыны-паэта. З Ахматавай жа Лёсаву лучыць яшчэ і рытмічны малюнак. Напэўна, спадарыня Дар'я магла б выдатна перакладаць паэзію Ахматавай на беларускую мову.

Дар'я Лёсава піша пра тое, пра што не можа не пісаць беларуская паэтка: каханне, Айчына, паэзія і асобна — Маці, Мама, Мамачка, Матуля. Асобна не толькі таму, што Маці згадваецца ў большасці вершаў. З ёю Дар'ю звязвае нешта большае за звычайную любоў і дачэчную павагу — роднасць душ:




*Аніхто ёй не піша,*
*Век сумуе адна.*
*Мама — белая вішня*
*Ля начнога акна.*

*Мама, белая Мама.*
*Як ва мне ты шчыміш!*
*Як і ты, я — таксама*
*Сёння вішанькі ціш...*

Чаму ж, калі ўсё так звычайна, вершы Дар'і Лёсавай запамінаюцца і кранаюць? Адказ таксама просты: таму, што паэтка сапраўды ведае, пра што піша, і кожны поўны зямной тугі верш перажыты ёю напоўніцу.

# Восень і трошкі пра вечнае




**Алена КАРП**

Пры жаданні можна ўбачыць пэўную сімвалічнасць у тым, што ў снежаньскім нумары «Полымя», адзначаным 90-гадовым юбілеем часопіса, паэзія прадстаўлена не мэтрамі, а маладымі аўтарамі. Што праўда, усе яны даволі кансерватыўныя ў сваіх густах, прыхільнасцях, творчай манеры, таму як нельга лепш упісваюцца ў канцэпцыю часопіса. Больш за тое, разам яны ствараюць кантэкст, які дазваляе гаварыць пра некаторыя тэндэнцыі маладой паэзіі, а дакладней — традыцыйнай яе плыні.

Усе прадстаўленыя аўтары — Мікола Галавач, Рагнед Малахоўскі, Алег Лойка, Алесь Бараноўскі, Надзея Філон — ступаюць па добра ўтаптанай сцяжыне традыцыі. І гэта пахвальна ў тым выпадку, калі традыцыя ёсць духам, паветрам, шырокім рэчышчам, якое дае магчымасць развівацца. Нашы аўтары, аднак, больш схільныя разглядаць традыцыю як строга зададзены вектар, прамую, з якой лепш не збочваць, і нават не грэбуюць часам падабраць забытае на ўзбочыне клішэ.

Крок управа-ўлева расцэньваецца ў такіх варунках як прыемнае выключэнне. Так, Мікола Галавач спрабуе сябе ў верлібры («Халоднай розуму сталлю...»), аднак яго антытэзы самыя аднязначныя і, на жаль, не раз ужываныя: добрае — дрэннае, светлае — цёмнае; шукае новыя вобразы, але, здараецца, блытаецца ва ўласных думках. Найбольш удалым, самастойным падаецца верш «Асенні дождж». Засмучае банальная назва, але куды падзенешся: восень па-ранейшаму ў фаворы. Гэтую пару не згадала ў сваёй нізцы толькі Надзея Філон. У астатніх восень нараджае стандартны набор пачуццяў: «Прыйшла жаўтакрылая сумная восень... / Самотна на сэрцы — няма цеплыні» (Алег Лойка) — і правакуе не менш стандартныя пейзажныя замалёўкі з усімі абавязковымі атрыбутамі: агонь лісця, адлёт птушак, «шызых нябёсаў / лёецца панылая песня». Спадзяванне Рагнеда Малахоўскага: «Хочацца верыць, / Што восень палюбіць паэтаў», верагодна, адгукнецца і чытачу. Няхай бы ўжо палюбіла ці хаця б дазволіла паглядзець на сябе пад нейкім іншым вуглом.

Акрэсленае поле вечных каштоўнасцей — прага справядлівасці, любасць да радзімы, прыроды, выхаванне душы — яднае паэтаў снежаньскага нумара. Але ўсе гэтыя светлыя пачуцці, безумоўна, вартыя павагі, не выклічуць даверу і суперажывання, калі будуць заяўленыя дэкларацыйна. Гаворачы пра высокае, аўтары часам лічаць патрэбным станавіцца на катурны, прымяраць старэчыя, неадпаведныя маскі. Так, Алесь Бараноўскі заяўляе: «Я спазнаў гэты свет...», пераконвае, што помніць, як «чорнай сажаю Хатынь / Схавала сонца на світанку» і параўноўвае свой лёс з лёсам пракаветнага бору:

*У родны бор, як калісь, завітаў.*
*Ён быў чамусь маўклівы і пануры.*
*Хоць, як і я, у ліўні і ў віхуры*
*Гібеў, але й дагэтуль не сканаў.*

Такое штучнае дарастанне да тэмы, відаць, напрамую звязана з рамантычна-ўзнёслым успрыманнем паэта і яго місіі, характэрным найперш для Рагнеда Малахоўскага («У гордым вершы вольны быў паэт / На аркушы заснежанага поля») і Алеся Бараноўскага («Я паэт. Назаўжды. А паэтам скараецца й час»). Пакінем убаку той факт, што падобныя пасажы сёння могуць падацца старамоднымі, але ў той час як голасна прамаўляецца пра падзенне нораваў, крушэнне спрадвечных маральных асноў, небяспеку, што пагражае чалавецтву, лірычны герой застаецца, прытым па сваёй волі, пасіўным назіральнікам, ад якога нічога не залежыць. «Не нам ісці па дарозе — / Хавацца ўсяго за дарогай» (Мікола Галавач).

У такім кантэксце найбольш сімпатычнай падаецца пазіцыя Алега Лойкі, для якога назіранне роўнае спасціжэнню, вывучэнню жыцця (тут блізкая яму Надзея Філон, прынамсі, у вершы «Звычайная змена»), а пейзажная лірыка, да якой найбольш схільны малады аўтар, проста не дае выхаду на голую дэкларацыйнасць. А ў Надзеі Філон замест яе — пяшчотны верш-пажаданне «Белая сняжынка на далоні...», хоць пра дарэчнасць альбомнага верша ў «тоўстым» літаратурным часопісе можна паспрачацца.

# Паміж дабром і злом




**Соф'я МАРОЗАВА**

У дванаццатым «Нёмане» 2012 года ўразіла апавяданне Анатоля Андрэева «Эфект лотаса». Па прачытанні твора застаецца шлейф уражанняў, а ў свядомасці аб'ёмна паўстае ідэя. Творы падобнага кшталту не толькі запамінаюцца — яны ў нечым змяняюць чытача.

Знешне сюжэт вельмі просты: былыя муж і жонка Юлій і Юлія сустракаюцца, каб высветліць адносіны і вырашыць, як жыць далей. Пасля яе легкадумнай здрады і не менш раптоўнага прызрання галоўнае пытанне — лёс дачкі Дашкі: Юлія сышла з сям'і, і дзяўчынка засталася з бацькам. Але выяўляецца, што карані канфлікту паміж Юліяй і Юліем зусім не ў галіне пачуццяў, яны глыбей — у светапоглядзе.

«А этот волк хороший или плохой?» — усё пачынаецца з пытання дзіцяці. Адказаць на яго Юлію не так і лёгка, улічваючы, што мульцяшны воўк толькі па сутнасці злосны, а знешне «прыкольны». Словы дачкі робіцца каталізатарам — спараджаюць цэлы шэраг пытанняў: як ацэньваць здраду жонкі? сваё становішча? учынкі дзеда-маршала і раманы бяздарнай пісьменніцы-выкрывальніцы? як выхоўваць дачку? Юлій прагне разабрацца, унесці пэўнасць у рэальнасць, дзе ў хаосе змяшаліся зямля і неба, высокае і нізкае, дабро і ліха. Падобна да бога-дэміурга (ці «Цезаря в латах»), ён тытанічнымі высілкамі стварае і сцвярджае параметры свайго свету, структуруе яго, быццам бы наноў узводзячы зямлю і аддзяляючы ваду. У гэтым парыве — спроба дапасці да «праўды жыцця», паводле якой кожны чалавек або добры, або ліхі — па сваёй сутнасці, без сацыяльных масак, «як у казцы ці на вайне». Свае думкі Юлій палка выяўляе ў размове з Юліяй, выклікаючы і правакуючы яе. Канфлікт непазбежны, бо гераіня спавядае іншую псіхалогію: «не судите, да не судимы будете», «каждый по-своему хорош. И по-своему плох. Не бывает же однозначно плохих и хороших», «любовь — это чувство священное», «нельзя ставить на человеке крест» — неўзабаве гэта атрымлівае назву «эфект лотаса». Параўнанне невыпадковае: маці-пісьменніца называе Юлію імем гэтай кветкі... У будызме лотас — чысціня душы і яе непадуладнасць сансары (балотнай твані, з якой вырастае), а тут — сімвал раўнадушша і эгаізму, спалучаных з псіхалагічнай беспакаранасцю. Ёсць паняцце «эфект лотаса» і ў біялогіі: дзякуючы асаблівай будове лістоў расліны вада сцякае з іх, не затрымліваючыся.

Сур'ёзнасць зместу ўраўнаважваецца ў першай частцы знарочыста лёгкай казачна-міфалагічнай падачай. Героі прымаюць розныя іпастасі: «Цезарь в латах, деспот и тиран», «поникший Ромео, Василий по паспорту», «спящая красавица, Джульетта», «мать-сыра земля Деметра», «нежная Снегурочка», «богиня, которая поставила на колени самого Зевса» — і «пераапрананне» тут сродак не толькі іроніі, але і псіхалагізму.

Анатолю Андрэеву ўдалося паказаць канфлікт светапоглядаў у канфлікце дваіх людзей. Маналогі і дыялогі максімальна раскрываюць герояў. Уласна, дыялогі і складаюць асноўнае дзеянне — дынамічнае, насычанае. Пераходы думкі часам нечаканыя: «А что значит вырастить дочь? Это значит разобраться в себе». Катэгарычнасць і бескампраміснасць выказвання дваістыя: з аднаго боку, канцэнтравана падаюць пазіцыю («Быть бездарным писателем — это преступление против человечества...»), а з другога — сведчаць пра напал эмоцый падчас сваркі, характарызуюць герояў («Маршал правильно сделал, что расстрелял твоего деда»).

Можна адзначыць і мастацкую цэльнасць апавядання, і дакладны, афарыстычны стыль, і кранальны вобраз Дашкі. У адрозненне ад Юлія і Юліі, якія ў пэўнай ступені ўмоўныя, Дашка сапраўдная (можна меркаваць па імёнах). Але найбольш уражвае ў апавяданні тое, што «эфект лотаса» пазнавальны. Апавяданне Анатоля Андрэева вяртае да сістэмы каардынат, калі хвароба рэлятывізму яшчэ не захапіла свядомасць, да разумных пачуццяў, увагі да чалавека. Натуральна, твор не заклікае расфарбаваць свет у чорна-белыя колеры. Хутчэй запрашае да развагі. Урэшце, мы кожны дзень выбіраем паміж дабром і злом, нават калі не ўсведамляем гэтага.

# Каралеўства... на сметніку




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

У снежаньскім нумары «Маладосці» ўвагу прыцягвае твор Міхася Зізюка «Кароль Капайла і яго атачэнне». Пачатак аповесці інтрыгуе: у жыцці бізнесмена Лявона Сухадольскага, уладальніка прыватнай фабрыкі па вырабе мэблі, пачынаецца чорная паласа. Фірма партнёраў банкруціцца. Лявон сварыцца з начальнікам падатковай інспекцыі, а дома заспявае жонку з каханкам. Ён вырашае знайсці ісціну ў віне, а неўзабаве знаёміцца ў бары з дзвюма маладымі дзяўчатамі. Але «інтэлектуальныя» размовы пра сэнс жыцця працягваюцца нядоўга: Лявон прачынаецца без грошай, банкаўскай карткі і дакументаў... на гарадскім сметніку, дзе вырашае застацца на пэўны час у кампаніі бадзяг.

Мяркую, аўтар аповесці меў як мінімум два шляхі. Або паглыбіцца ў сацыяльную тэматыку, правесці чытачоў па месцах, дзе жывуць прадстаўнікі сталічнага «дна», раскрыць вобразы яго сталых насельнікаў, патлумачыць, што ці хто (жыццё, сваякі, грамадства) прывялі іх да такога існавання. У гэтым выпадку здарэнне з Лявонам стала б толькі падставай для падобнага падарожжа. Або, наадварот, зрабіць акцэнт на асобе Сухадольскага, які мусіў пераасэнсаваць сваё ранейшае жыццё. Тады здарэнне стала б штуршком для яго духоўных пошукаў, а мясцовыя бадзягі сваімі жыццёвымі гісторыямі, досведам і логікай паводзін маглі б паўплываць на Лявона. Падаецца, аўтар паспрабаваў сумясціць абодва падыходы, але вынік атрымаўся супярэчлівым.

У аповесці Лявона знаходзіць Капайла, які кантралюе сметнік. Галоўны герой раптоўна вырашае: «А няхай будзе як будзе, няхай яна (жонка — **Д. М.**) пакруціцца там, паспрабуе, як гэты хлеб здабываецца. Ён жа знікне на нейкі час, проста знікне і ўсё, потым вырашыць, што з ёю зрабіць». Парадокс, але прапанаваныя інтэр'еры цудоўна падыходзяць для такіх разважанняў. Бо М. Зізюк, на жаль, ніяк не перадае атмасферу месца, дзе разгортваецца дзеянне. Адсутнічаюць хаця б нейкія дэталі, якія характарызуюць сметнік і маглі б выклікаць у чытача натуральнае пачуццё агіды. Аўтар мог смела напісаць, што дзеянне адбываецца на тэрыторыі завода ці закінутай вёскі: асаблівай розніцы не будзе.

Пісьменнік паслядоўна знаёміць чытачоў з жыццёвымі гісторыямі бадзяг. Хтосьці з іх трапіў на сметнік у выніку збегу абставін (Чапяла, Карась, Кныш), іншыя — ратуючыся ад суда (Капайла, Бугай, Фрыц, Сыч). Але біяграфіі большасці герояў застаюцца ў аповесці ўстаўнымі фрагментамі і амаль не ўплываюць на далейшае развіццё падзей. У кульмінацыі «Караля Капайлы» (эпізод, калі па знойдзеныя на сметніку грошы прыйшлі спярша «аўтарытэты», а потым па іх следзе амапаўцы) свой характар праяўляюць толькі Лявон і Капайла, а астатнія застаюцца ў ролі масоўкі.

На працягу аповесці Сухадольскі мае шанц паразважаць над сэнсам уласнага жыцця, але ніяк не выкарыстоўвае такую магчымасць. Усяго ў адным эпізодзе ён праяўляе незадаволенасць сваім ранейшым існаваннем і разважае: «Толькі як павярнуць сваё жыццё ў іншы бок, памятаючы, што ты ў адказе за лёс свайго дзіцяці». У астатнім Сухадольскі ва ўсім слухаецца Капайлу і трымаецца цішэй вады, ніжэй травы. Бадай, адзінае выключэнне — яго спроба заступіцца за Кныша і Чапялу ў эпізодах з грашыма. Але паколькі вобраз Лявона не раскрыты, мы не можам дакладна сказаць: такі ўчынак з'яўляецца для яго звыклым або жыццё на сметніку паўплывала на характар героя.

У выніку падзеі ніяк не змяняюць Лявона, які застаецца тым жа чалавекам, што і дагэтуль. Больш за тое, чытачы так і не атрымліваюць магчымасці зразумець, што за асоба хаваецца за маскай Сухадольскага — спярша паспяховага бізнесмена, а потым стараннага працаўніка. Аўтар можа парыраваць у адказ, што адсылае чытачоў у пачатку і фінале аповесці да біблейскіх сцэн (шлях Ісуса на Галгофу). Але сувязь паміж імі і лёсам Лявона падаецца мне крыху штучнай, а адзіная рэпліка героя, які патрабуе выратаваць Збаўцу, — недастатковай для раскрыцця яго вобраза.

Аповесць «Кароль Капайла і яго атачэнне» пакідае ўражанне па-свойму цікавай рэчы, патэнцыял якой, на жаль, не быў цалкам рэалізаваны.

## Таццяна МУШЫНСКАЯ



***

*Няўжо наша стрэча*
*Застанецца марою?*
*Яна прыйдзе воблакам,*
*Яна сыдзе хмарою.*

*Няўжо наша стрэча*
*Застанецца мрою?*
*Нязбытнасць джаліць*
*Пчаліным роем.*

### На кані

*На кані, на кані, на кані,*
*Дагані ты мяне, дагані!*

*Абярнуся ветрам у полі,*
*Звонам конікаў на волі,*
*Хваляй сіняю у моры,*
*Белым воблакам лятучым,*
*Дрэвам трапяткім, цякучым,*
*Хмарай цёмнаю грымучай...*

*Страсяну маланкай неба,*
*Перуном загрукачу,*
*Цішай раптам асвячу*
*Твары, лёсы, кветкі, дрэвы...*

*Не дагоніш ветру ў полі,*
*Водар кветак, шолах траў!*

*Стану мрояй несуцешнай,*
*Стану казкай тваёй лепшай,*
*Памяці ціхмяным дном,*
*Даўнім, запаветным сном...*

*На кані, на кані, на кані,*
*Дагані ты мяне, дагані!*

***

*Ноч без зор.*
*Знік зорак узор.*
*Больш не маю надзей,*
*Ноч — дакор.*

*Сум і змрок.*
*Зусім адна.*
*Ноч да самага дна*
*Не відна.*

*Хоць крычы*
*Ў безнадзейнай начы.*
*Сэрца маё,*
*Лепш маўчы!*

*Поўніцца раніца*
*Непазбыўнай журбой.*
*Дзе ж падзецца*
*Ад сябе самой?*
*Самота і роспач,*
*Туга і адчай*
*Спавіваюць душу.*
*Адзіноту страчай!*

*Адзінота звініць*
*Нясцерпнай цішынёй.*
*Як вярнуцца*
*Да сябе самой?*

***

*А кветак сад зіхцеў, буяў*
*У падземным пераходзе,*
*У раскошы фарбаў,*
*Водараў, у згодзе —*
*Усім багаццем пекным*
*і зямным.*

*Хіба жыццё — не сад,*
*Як шчасце мы спаткаем?*
*Пра тое шчэ не ведаем,*
*Спазнаем, калі яно*
*Растане ўміг і ўраз...*

***

*Навошта лёс мяне*
*штурхнуў,*
*У цёмны лабірынт*
*піхнуў*
*Душы чужой, нязнанай,*
*Зусім неспадзяванай?*
*Шурпатыя тут сцены*
*І атуляе цемра,*
*І жудасць, страх пануе...*
*Хто тут мяе пільнуе?*
*А лабірынт рагоча*
*І адпусціць не хоча.*

## Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ



### Вандроўкі далёкія і блізкія

***

*Пальцам пханыя каўбасы*
*я вазьму на Кушадасы.*
*Як турэцкія гурманы*
*запытаюць, што за страва,*
*адкажу: "Такая справа —*
*беларускія бананы!"*

### Марскі верш

*Мы памятаем заўсёды,*
*што ў Вечнасці досыць шкоды,*
*каб часам згадаць знянацку,*
*што ў пальцах яе мы — цацкі.*

*...Калі заплыве караблік*
*па хвалях кампоту ў страўню*
*і раптам захоча яблык —*
*адкуль яго ўзяць у траўні?*

*І скруцяць штурвал матросы,*
*і лаяцца будзе штурман,*
*але застанецца з носам*
*пад песенькі "Умы Турман".*

*А Вечнасць заўжды ў гуморы,*
*у лужыне мы ці ў моры*
*глытаем нататкі Смерці —*
*заўжды яна з нас смяецца.*

### Хваласпеў каве

*Мне хочацца ціха памерці,*
*калі ў мяне зніжаны ціск,*
*бязбольнаю, лёгкаю смерцю,*
*праводзячы сонечны дыск*

*вачыма за край далягляду,*
*за той перакошаны гмах,*
*што свет захінае пагляду,*
*убіўшыся ў сонечны шлях.*

*Ды думка, што процьма работы,*
*спакойна сканаць не дае.*
*Намер свой адклаўшы на потым,*
*скіроўваю сілы свае*

*на кухню, у сховішча кавы*
*(ратунак зямнога жыцця!),*
*і смак яе, трохі гаркавы,*
*вяртае мяне з небыцця.*

## Таццяна ПРАТАСЕВІЧ



***

*А сёння белая трава*
*І серабрыстыя бярозы.*
*Машын на трасе караван*
*І, ледзь прачнуўшыся,*
*мой розум*
*Дзень пачынае вершам.*
*Скрозь*
*Туманных музаў*
*сілуэты.*
*Пераўтвараецца*
*мароз*
*У майстра рэдкіх*
*інструментаў.*
*Майстэрня срэбных*
*нотаў гук*
*Вяртае ў чутны вуху*
*ракурс.*
*І я цяпер ужо*
*змагу*
*У музыцы*
*Адчуць*
*Свой*
*пульс.*

### Нябачныя жанчыны

*Мара, Муза, Фея...*
*Нябачныя жанчыны.*
*І хто падкажа, дзе мне*
*Убачыць іх магчыма.*

*Муза, Фея, Мара...*
*Адчую іх прысутнасць,*
*Але нябачна твараў,*
*Адных імён славутасць.*

*Фея, Мара, Муза!*
*Сустрэцца з імі мару.*
*З мяне смяешся, дружа? —*
*Усмешка ўсім да твару!*

### Наканаваная вясна

*Доўгую восень кідае то ў зіму,*
*то ў лета.*
*То вясновы капеж і праталіны,*
*кветкі.*
*Ды жаўруковая песня яшчэ*
*не прапета,*
*І прыкрывае зіма нас абрусам*
*бялюткім.*

*Толькі ці гэта галоўнае,*
*што ў наваколлі?*
*Пэўна, найпершае тое,*
*што ў думках схавана.*
*Важна, што ў думках*
*на вашым галоўным прастоле.*
*Добраму ж сэрцу вясна*
*проста наканавана.*

## Таццяна БАРЫСЮК



***

*Гэтай ноччу поўня расцвіла...*
*Валасы пафарбавала ў цемру.*
*І дарога мройная вяла*
*скрозь таемнасць сонных*
*святлаценяў.*

*Вабіла начных нябёс прадонне,*
*фіялетавасць, бясконцасць.*
*Я падумала, што поўня —*
*абяспромненае сонца...*

### Рэінкарнацыя кахання

М.К.→NN

*Мрояй твой намалюю партрэт,*
*Хоць даўно мы на розных планетах.*
*Сэрца помніць, і час не сатрэ,*
*Не зруйнуе ўспамінаў дашчэнту.*
*Як зляціць шэрых дзён мітусня,*
*Я змагу закахацца аднойчы,*
*Бо тваё будзе мець Ён імя*
*І смарагдава-карыя вочы.*

### Які той свет

*А я ўявіла на імгненне,*
*які той свет, жахліва-скрушны.*
*Што там не будзе вымярэнняў,*
*ні пахаў, фарбаў, смакаў, гукаў,*
*ні слоў, ні думак, ні пачуццяў,*
*не будзе душ — нямыя здані,*
*у атмасфернай каламуці*
*без жыццясэнсу і кахання.*

### Фантомы няволі

(самапрадказанне па картах Таро)

*Вочы завязаны, звязаны рукі,*
*Стрыманыя, нерашучыя рухі.*
*Збегчы хачу я з няшчасця*
*вязніцы.*
*Сон той дагэтуль, свабодны мне,*
*сніцца.*
*Страх, што ўцякачку дагоняць*
*і вернуць.*
*Птушкай слабою душа мая чэзне.*
*Ды небяспекі — фантазій хімеры.*
*Любы, ты — шлях мой*
*да знойдзенай веры!*

### Сакура ў квецені

Хоку

*Цвіце сакура.*
*Ападаюць пялёсткі.*
*Краса нявечна.*

Тамара КУРЛЕНКА

# Памяць не вернецца

## *Апавяданне*



I

У той год верасень выдаўся спякотным. Нават уначы было даволі цёпла і кожны кусцік мог даць прытулак падарожніку. Таму Надзея Багданава яшчэ па дарозе на чыгуначны паўстанак вырашыла не шукаць начлегу ў райцэнтры, а дабірацца на "сваіх двaіх" да глухой вёсачкі, куды ехала працаваць бібліятэкарам пасля заканчэння тэхнікума: дарога была знаёмая — не раз хадзіла тут, а цёмная зорная ноч не палохала. Быў бы які-небудзь дрымучы лес, а так суцэльны хмызняк, ці, як палешукі кажуць, "хмызнік".

Прайшла палову шляху і спынілася ад нечаканасці: на дарозе, якая выводзіла з невялікага мястэчка Забалоцце, з'явілася мужчынская постаць. Сэрца ёкнула: у тыя пяцідзясятыя гады нямала было рабаванняў на дарогах нават днём. Па выправе бачыла — малады.

Параўняліся, але Надзея нават не павярнула галавы. Прайшлі з вярсту, не кажучы адно аднаму ні слова. Малады чалавек выпетраў як цень, і ў дзяўчыны не месцілася ў галаве, дзеля чаго крочыць за ёю нечаканы спадарожнік. Рабаванне? Даўно б адабраў убогі "рыдыкюль" яшчэ, відаць, даваеннага фасону. Мяркуе ўчыніць штосьці горшае? Не, не цягнуў бы час, бо Дзятлаўка ўжо побач, чутны прыглушаны брэх сабак.

Пры мігаценні яркіх зорак азірнулася нарэшце і ледзь не рассмяялася.

Мінулым летам, прыязджаючы на вакацыі ў Дзятлаўку да дзядзькі Паўла, сустракалася яна з Мікалаем. Праўда, разы чатыры гэта было. Штосьці перасцерагала, адпрэчвала. Ці то новы шавіётавы гарнітур, які тады не кожнаму быў па кішэні, ці тое, што па "першым хлопцу на вёсцы" сохлі амаль усе дзятлаўскія дзяўчаты. Але, абяцаючы яму пісаць, Надзея ведала, што гэта пустое абяцанне. Падабаўся ёй, што і казаць, гэты заліхвацкі балака. Надзея вырасла без бацькоўскай пяшчоты і мела патрэбу ў добрым стаўленні да сябе. Мікалай быў, здавалася, такім — чулым, ласкавым. Ды і да гэтага ні з кім з хлопцаў не сустракалася, ён быў першым, хто дакрануўся сваімі прагнымі гарачымі вуснамі да яе пяшчотных дзявоцкіх.

Калі ёй прапанавалі пасаду бібліятэкара ў Дзятлаўцы, з радасцю згадзілася. Там бывала не раз у дзядзькі, была знаёмая з некаторымі дзяўчатамі, і міжволі падумалася пра Мікалая: напэўна, ажаніўся ўжо, цаліннік чубаты. І вось на табе:

— Надзейка! Дабрыдзень! А я цябе адразу пазнаў, як толькі выйшаў на дарогу ў Дзятлаўку. Дай, думаю, трохі напалохаю.

— Дабрыдзень, Мікола! — не сказала — выдыхнула. — Ад цябе ўсяго можна чакаць.

— Ды вось, разумееш, іду з працы. Я зараз у Забалоцце ў МТС уладкаваўся. А ты зноў да нас у госці? Што ж не пісала?

— Працаваць еду — бібліятэкарам, хоць ведаю, што за бібліятэка ў вашай Дзятлаўцы.

У раёне ёй яшчэ мінулым летам сказалі, што, маўляў, не месца фарбуе чалавека, а чалавек месца. Зможа наладзіць масавую працу — калгас вылучыць сродкі на будаўніцтва асобнага будынка.

Падышлі да вёскі. Пачыналася раніца новага дня, новых клопатаў і надзей. Развіталіся суха, афіцыйна.

II

Адсыпацца не было калі. Пагаварылі пра справы жыццёвыя з дзядзькам Паўлам і цёткай Кацярынай, пачаставала дзяцей цукеркамі падушачкамі, а потым накіравалася на цэнтральную сядзібу калгаса, у сельскі савет.

Сустрэлі падкрэслена ветліва, аднак дапамогі аніякай аказаць не паабяцалі. Кіраўнік мясцовай улады— лысаваты мужчына з жоўтым хваравітым тварам, раз-пораз сморкаючыся ў брудны насавік, сказаў, як адсек:

— Бачыш, дзеўчына, пад якім дахам самі, а ты кажаш — бібліятэку! Адным словам, ты працуй, працуй. Будзем плаціць дзвесце семдзесят рублёў ды калгас пятнаццаць працадзён за загадванне брыгадным клубам, вось. Жыць табе ёсць дзе, вось. А там пабачым...

Калі выйшла на вуліцу, Надзея спынілася ў нерашучасці. Сеўшы на лавачку каля тына, дзяўчына разважала: ну, насамрэч, жыць ёсць дзе, але дзе працаваць і з чаго пачынаць? І тут успомнілася работа Крупскай "Бібліятэка павінна ўвайсці ў побыт", а ў ёй радкі: "першачарговая задача бібліятэкара — умець арганізаваць вакол бібліятэкі актыў". Як за саломінку, ухапілася за гэты выраз. І на душы адразу палягчэла.

III

Прайшоў першы тыдзень працы. За гэты час Надзея тры разы пабывала на малочнатаварнай ферме. У першы раз усе пяць даяркак на яе прапанову паслухаць, пра што пішуць у газетах, толькі рукамі замахалі: маўляў, нам не да газет. А Параскева Лапцік з непадробнай злосцю не сказала, а выгукнула: "А ты, спадарачка, папрацавала б як мы, дык хутчэй бы пра пасцельку думала, а то бач! На во, маю падаі Пяцёху, дык ці да газэт будзе?"

— А што, паспрабую, — хітра падміргнуўшы, адказала Надзея.

Доўга потым пацяшаліся дзядзька Павел з цёткай Кацярынай, як бібліятэкарка не з таго боку падыходзіла да каровы, наракалі, што не навучылі такому майстэрству пляменніцу падчас вакацый, але першая ступенька была пераадолена, даяркі ўбачылі ў ёй не якую-небудзь там задаваку і з замілаваннем захапляліся: "Вось табе і вучаная, а пад карову не пасаромелася сесці!.."

Вечарамі спяшалася ў клуб да двух шаф з кнігамі — патрапанымі, нікому не патрэбнымі. Моладзь цікавілі толькі танцы, таму перш за ўсё паспрабавала арганізаваць драмгурток, на што мясцовыя дзяўчаты гультаявата адмахваліся, а хлопцы наогул выстаўлялі на смех. Тады з маладзіцамі пайшла ў поле капаць калгасную бульбу, а там вясёлыя, заліхвацкія песні, якія паступова перанесліся ў клуб. І ўжо на Кастрычніцкія святы дзятлаўскія самадзейныя артысты выступілі на імправізаванай клубнай сцэне з канцэртам.

А да новага года старшыня калгаса вылучыў грошы на набыццё дзвюх новых шаф для літаратуры, перададзенай раённай бібліятэкай. Гэта была хоць і не вялікая, але перамога.

Цяпер у бібліятэцы не было адбою і ад маленькіх палешукоў. Дзятва чарадой хадзіла за "цёткай Надзеяй", і тая ж Параскева Лапцік ласкава казала: "Ты ў нас, Надзейка, і бібліятэкарка, і настаўніца, і даярка, і брыгадзір"! А Надзя пацiскала сваімі худзенькімі плечыкамі ў адказ і шчасліва дадавала: "Ці, як беларусы кажуць, і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц".

IV

...Прыехаў Мікалай, які па восені завербаваўся на лесараспрацоўкі ў Комі, адкуль дасылаў цёплыя, ласкавыя лісты, у шчырасць якіх Надзея мала верыла. Калі кахае, дык навошта з'ехаў на край свету, калі і ў калгасе спраў хапае. Не жадае тут — працаваў бы сабе ў Забалоцці ў МТС трактарыстам, дык на табе, вясковы хлопец, а схільны да вандровак. Сказаць бы бацькі бедна жывуць, дык не. Пагаворваюць, што Міця (бацька Мікалая) на будаўніцтве ўчастковай бальніцы ўсе кішэні грашыма набіў... Аднак сэрцу не загадаеш. І сама яшчэ толкам не ўсведамляючы, Надзея вельмі пакахала гэтага "гора-дзеўкам" хлопца. За што? Калі вучылася ў тэхнікуме, хтосьці з дзяўчат-пераросткаў выказаў такую думку: "Толькі разлюбіўшы, зразумееш, за што пакахала".

— Гора табе будзе за ім, — казала па раніцах цётка Кацярына.— Ты ж бачыш, які ён шалапут. А ці не прымчыцца за ім якая з таго Сіверу?

Але ніякія ўгаворы на Надзею не дзейнічалі. Познімі сакавіцкімі вечарамі блукалі яны па ціхіх вуліцах Дзятлаўкі. І аднойчы, калі падышлі да хаты (ці, як у вёсцы казалі, "асабняку") Дзярагіных, Мікола, яе Мікола — дужы, каханы і самы дарагі — узяў яе, як дзіця, на рукі, і ўнёс у бацькоўскую хату.

Упершыню ў той час у Дзятлаўцы гулялі мнагалюднае вяселле.

V

Як цяпер памятае Надзея Цярэнцьеўна той сонечны майскі дзень, калі ў будынак клубабібліятэкі зайшоў старшыня калгаса "Новы світанак" Цімафей Пятровіч, памятае да дробязей усе яго словы:

— Вось што, Надзея, тэлефанавалі мне сёння з раёна, жадаюць забраць цябе ў нас — кіраваць маладымі. Парайся з мужам.

— Нікуды я не паеду, — здзіўлена-холадна адказала Надзея. — Мне і тут добра.

— Ды пачакай ты, не гарачся. Я ім сказаў, што ты, напэўна, не захочаш пакінуць тое, што выпеставала сваімі рукамі. — І пачаў загінаць пальцы. — Ды тут і пальцаў бракуе.

— Цімафей Пятровіч, дарагі! — Падбегла да яго. — Ды які ж вы разумнік! Нікуды мы ад вас не паедзем.

— А калі так, — усміхнуўся старшыня, — то літаральна сёння вырашаю на пасяджэнні праўлення калгаса пытанне аб будаўніцтве асобнага будынка бібліятэкі. Куранят па восені лічаць. Так, Надзейка? — сказаў старшыня, па-бацькоўску паляскаўшы Надзю па плячы.

Дахаты ляцела як на крылах. Павінен прыйсці ўжо з работы Мікалай. Пра тое, што ёй прапаноўваюць месца ў раёне, Надзея нічога не скажа. А то, чаго добрага, надумаецца ўгаворваць. А вось пра новую бібліятэку яна пахвaліцца. Ён павінен парадавацца за яе.

Пасля шлюбу Мікалай змяніўся. З балакіператварыўся ў сур'ёзнага, сталага сем'яніна. З вялікай радасцю прыняў вестку пра тое, што ў недалёкай будучыні яна стане маці. Пры нязначных нападках свякрухі заўсёды станавіўся на бок жонкі. І нават сам пагаворваў пра тое, што, маўляў, нядрэнна было б ім жыць асобна: грошы на будаўніцтва свайго кута ў іх ёсць — прывёз з лесараспрацовак. Але калі Надзея прасіла расказаць што-небудзь пра Поўнач, ці адмоўчваўся, ці рабіў выгляд, што не чуе.

Амаль каля хаты сустрэла суседку, якая паціху вымавіла: "У вас госці, Надзея Цярэнцьеўна".

Напэўна, хтосьці з раёна ці з Мікалаевых знаёмых, падумала. Убегла ў хату і аж скамянела: на ложку сядзела, нібы паўнапраўная гаспадыня, чорнавалосая маладая жанчына з раскосымі вачыма, а побач на падлозе гуляўся з кацянятамі хлопчык гадкоў двух — выліты Мікалай. "Нягоднік, паскуднік!" — толькі і падумала Надзея, сабрала хуценька свае пажыткі і бегма — да бліжэйшай сяброўкі. Да цёткі з дзядзькам ісці пасаромелася.

Увечары заявіўся Мікалай — п'яны, збянтэжаны, разгублены. Звычайна хмель дадае рашучасці, а ён стаяў — ні лой ні масла:

— Надзейка! Ды калі б я быў дома... Надзейка, весялуха мая любая, прабач... Ды не жонка яна мне зусім, а так...

— Сыдзі, прашу цябе, ці я за сябе не ручаюся, — і выштурхнула яго дрыготкімі рукамі за дзверы.

Колькі ні маліў яе Мікалай, Надзея сказала, нібы адрэзала:

— Прабач, бачыць цябе не жадаю!

І ён з'ехаў са сваёй "якуткай" да яе бацькоў.

А Надзея — як ні сорамна, ні крыўдна было — не ўхапілася за прапанову пайсці на павышэнне ў раён: не змагла ўявіць сабе, як зможа жыць без дарагіх сэрцу дзятлаўцаў.

VI

Напярэдадні новага года забраць яе і немаўля з участковай бальніцы прыехалі Цімафей Пятровіч, дзядзька Павел і Марыя Сямёнаўна — новая старшыня сельскага савета.

— Паехалі, дачка, адразу ў новую бібліятэку, — сказаў кіраўнік калгаса. — Там дзяўчаты прыгатавалі і для цябе з сынам пакой. Праўда, невялікі, але свой. А там прыдумаем штонебудзь лепшае.

Пачыналася новае жыццё. І ў ім для маладой жанчыны было ўсё самае святое: выхаванне сына Міколкі, любая работа, цеплыня людскіх сэрцаў.

VII

...Цёплая жнівеньская раніца. Кацюшка збіраецца ісці з бабуляй. Дзіцячага сада ў "Новым світанку" пакуль яшчэ няма, і Надзеі Цярэнцьеўне даводзіцца ў першай палове дня браць унучку з сабой у бібліятэку. Сын з нявесткай настаўнічаюць у нядаўна адкрытай васьмігадовай школе — сышлі на работу — там заканчваецца падрыхтоўка да новага навучальнага года, а бабуля ахвотна далучае малую да кніг. І раптам:

— Бабулька, глядзі, да нас прыехала таксі. Бачыш, якія шашачкі па баках?

Веру — сястру Мікалая — Надзея Цярэнцьеўна адразу пазнала, а вось самога... Божа, у жніўні месяцы ў цёплых лямцавых ботах, шапка набакір, як у хлапчука! І вочы — блуклівыя, беспрытомныя. Адразу ўсё зразумела.

— Надзея! — пачала неяк вінавата Вера. — Ён не вар'ят, не. Стукнула бервяном па галаве, жонка адмовілася. Калі ачуняе, усё паўтарае пра цябе, просіцца ў Дзятлаўку...

Вёска гудзе: спагадваюць, асуджаюць, шкадуюць... Сын, бачна, незадаволена хмурыць бровы, не кажучы ўжо пра нявестку.

— Мама, ты — дэпутат, заслужаны і паважаны ўсімі чалавек, і побач з табой стары дурылка...

— Ох, сынок-сынок! Не гэта я жадала і павінна была пачуць ад цябе. Не таму я навучала цябе, каб пачуць такое пра твайго роднага тату...

Дзе ім зразумець, што не маладосць сваю вярнула яна, а толькі ўспамін пра яе, цень свайго адзінага кахання. Ёй, мудрай жанчыне — ужо бабулі, — усцешна нават размаўляць з ІМ, нібыта з дзіцём.

— А памятаеш, Мікалай Змітравіч? — ён сцвярджальна ківае галавой, гледзячы ў нябесны блакіт, хоць Надзея Цярэнцьеўна ведае: нічога Мікалай не памятае...

# Зямля, дадзеная лёсам




**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Падчас асваення сібірскай зямлі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў беларусам давялося зазнаць шмат выпрабаванняў. Псіхалагічны стрэс расстання з Бацькаўшчынай, цяжкае прыстасаванне да нязвыклых прыродных умоў, ужыванне ў новую сацыяльна-эканамічную і этнічную супольнасць. Апытаныя сведчаць: «Там в Белоруссии... чисто, тепло, всё растёт, сады, яблоки. А тут приехали в какую-то тайгу». «Мама всё говорила: в Белоруссии земли мало было, но жить-то там лучше было... Тут земли много было, а в землянку приехали, холодно. Бабушкина мать приезжала с ними сюды, дак плакала, плакала и уехала помирать туды, назад...»

Ад тугі па Бацькаўшчыне, ад халадоў, ад цяжкасцей нязвыклага і неспрыяльнага побыту ратавалі святы, звычаі, сустрэчы сваякоў. «На Троицу... водили хороводы по солнцу, взявшись за руки. И девушки, и ребята, берутся все. Мы были небольшие, дак тоже был свой хоровод-то. Молодёжь с гармошкой идёт на улицу». «Съезжий праздник у нас был Никола Зимний, в Паутово — Михайлов день, во Вьюнах — Крещение... Приезжали к маме из Паутова, Вьюнов. Родственники, хорошие знакомые... Приедут, лошадей распрягут... Мы <дзеці> лошадей поили. Молодые выскакивали, плясали под гармошку, старики пели песни. Такие песни, что лампы гасли».

Больш позним выпрабаваннем стала калектывізацыя і «раскулачванне». Ледзь створаныя гаспадаркі, толькі што пабудаваныя хаты «ачышчаліся» ад «кулацкіх элементаў». Потым Вялікая Айчынная, пахаванкі, цяжкасці пасляваеннага адраджэння — усё, як і калісьці, амаль «ад першага каменя». Ізноў побач рускія, беларусы, украінцы...

*«Белорусы в Сибири» — «піянерская праца», перспектыўны кірунак далейшых этнаграфічных даследаванняў. Найбольш плённым бачыцца цяпер вывучэнне менавіта беларускімі вучонымі артэфактаў айчыннай культуры, захаваных на сібірскай зямлі. На жаль, ёсць фінансавыя перашкоды. Тыя, ад каго залежыць іх вырашэнне, павінны памятаць простую ісціну: як мага больш руплівае, усебаковае спасціжэнне традыцыйнай народнай спадчыны — аснова захавання і стабільнага развіцця народа.*

...Дык ці не стала для ўсіх іх Сібір Бацькаўшчынай? Ці не варта яе трымацца гэтаксама, як Бацькаўшчыны «першай», этнічнай? Не за тым жа асвойвалі гэтую «цаліну» мільёны перасяленцаў розных хваляў, каб яна стала зноў цаліной і эксплуатавалася толькі як абалонка падземных багаццяў? Ці не на зямлі і зямлёй жыве чалавек? І яшчэ — памяццю пра справы продкаў на ёй? Пра памяць і дбалі стваральнікі кнігі. І, адпаведна, пра будучыню.

Даследаванні двух калектываў ужо атрымалі прафесійную ацэнку ў беларускім і расійскім навуковым асяроддзі. Лейтматыў яе наступны: перад намі — «піянерская праца», перспектыўны кірунак далейшых этнаграфічных даследаванняў. Найбольш плённым бачыцца цяпер вывучэнне менавіта беларускімі вучонымі артэфактаў айчыннай культуры, захаваных на сібірскай зямлі. На жаль, ёсць фінансавыя перашкоды. Тыя, ад каго залежыць іх вырашэнне, павінны памятаць простую ісціну: як мага больш руплівае, усебаковае спасціжэнне традыцыйнай народнай спадчыны — аснова захавання і стабільнага развіцця народа, якому яна належыць.

Яшчэ адна безумоўная прычына важкасці прэзентуемага праекта і кнігі «Белорусы в Сибири» — крызіс не толькі этнічна-нацыянальнай, але таксама інтэлектуальнай ментальнасці. Так, размова зноў пра тое, што людзі сёння аддаюць перавагу візуальнай, «напаўвіртуальнай» культуры, так што часу і ўвагі на якаснае друкаванае слова (носьбіта культуры рэальнай) у большасці амаль не застаецца. Часта кажуць, што самі літаратары вінаватыя — не выдаюць годных актуальных твораў, між тым як класіка, маўляў, цяжка пасуе да сучаснага імклівага тэмпу жыцця. Гэта выданне, не прэтэндуючы быць «літаратурай», нясе найбольш каштоўнае, што ўласцівае літаратурна-мастацкаму слову: упершыню адкрыты перад чытачом досвед. Канкрэтны, дакладны і ўнікальны досвед нашых суайчыннікаў на чужыне, якая стала другой Бацькаўшчынай. Ён мусіць яднаць продкаў і нашчадкаў, беларусаў і рускіх, сялян і гараджан, інтэлектуалаў і проста пісьменных людзей.

Тыраж кнігі, праўда, цяжка пасуе такой высакароднай мэце: усяго 500 асобнікаў. Улічваючы абавязковую рассылку па гарадах Расіі (больш як 200) і неабходную колькасць аўтарскіх экзэмпляраў, відавочна, што гэта рарытэт. Вельмі добра, што рыхтуецца адпаведнае айчыннае выданне: «Белорусская традиционная культура во времени и в пространстве». Хацелася б пажадаць аўтарам і выдаўцам, каб яны ўлічылі значнасць і цікавасць кнігі для шырокага чытача і склалі з асобных артыкулаў пэўную лагічную паслядоўнасць, прадугледзеўшы таксама больш ці менш папулярныя структурныя часткі ў выглядзе «пралога» і «эпілога».

А ўвогуле — віншуем з прэміяй!

*Узнагароды*

# Вылучаны намінанты на прэмію прафсаюза

**Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі назвала кандыдатаў на атрыманне прэміі 2013 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці. Усяго будзе ўручана па адной прэміі ў кожнай з сямі намінацый.**

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

Шэраг намінацый прадстаўлены толькі адным кандыдатам. У намінацыі «За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва» творчы саюз дырыжора-пастаноўшчыка Марыны Трацяковай і артыстаў-вакалістаў Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Аляксандра Асіпца і Яўгена Ермакова — за стварэнне яркіх вобразаў у музычнай камедыі «Аршын мал алан». У намінацыях «За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва» — Аляксандр Зіменка; «За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных» намініруецца дырэктар філіяла «Лідскія электрычныя сеткі» Гродзенскага РУП электраэнергетыкі «Гроднаэнерга» Пётр Лабан. У галіне журналістыкі — калектыў Людмілы Канапелькі, Ірыны Класкоўскай і Людмілы Мінкевіч, аўтараў матэрыялаў рубрыкі «Герой нашего времени» («Наши современники») «Народнай газеты».

Два творцы прапанаваны на прэмію Прафсаюза ў намінацыі «За творы прозы, паэзіі і драматургіі»: Зіновій Прыгодзіч (за кнігу «Родник у лесных берёз») і Ганад Чарказян — за раман «Горький запах полыни». З чатырох кандыдатур даводзіцца выбіраць і ў намінацыі «За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкае дзейнасць». Гэта Гюнэш Абасава, якая намініруецца за прапаганду беларускай песні ў краінах блізкага і далёкага замежжа і стварэнне шоу-праграмы «Дочь Востока», Вольга Плотнікава — за высокае выканальніцкае майстэрства ды стварэнне альбома і канцэртнай праграмы «Жизнь — конфета!». А таксама фальклорная група «Купалінка» Беларускай дзяржаўнай філармоніі — за значны ўклад у развіццё нацыянальнай музычнай культуры і стварэнне праграмы «Адвечная песня» — і мастацкі кіраўнік Брэсцкага філіяла РУП электрасувязі «Белтэлекам» Віктар Фяцісаў — за стварэнне зборнікаў песень «Дарую песню Беларусі», «Поют на ветру тальники», «Скажи, гармонь». У спісе намінантаў на прэмію за выдатны дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці названы вакальна-інструментальны ансамбль «Шкляры» бярозаўскага шклозавода «Нёман», дзіцячы музычны тэатр «Казка» Цэнтра мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна Мінска, народны ансамбль танца «Радуга» Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў і ўзорны ансамбль эстраднага танца «Дыямент» Палаца культуры РУВП «Граніт» (г. Мікашэвічы).

Усе названыя творцы — пакуль толькі намінанты на прэмію. Выказаць свае прапановы і правесці абмеркаванне кандыдатаў можна да 1 сакавіка бягучага года Камісіі па прэміях ФПБ ці па тэлефоне 8 (017) 203-95-83.

# Памяці сябра і калегі



Як горка і балюча назаўсёды развітвацца з сябрамі. Як цяжка ўсведамляць, што спыніўся творчы гаючы струменьчык, які сілкаваў не толькі мясцовыя раённыя ды абласную газеты «Полесская правда», «Лунінецкія навіны», «Чырвоная звязда», «Заря», але і рэспубліканскія, найперш літаратурныя, выданні: «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Нёман», «Полымя»...

Не стала Мікалая Еляneўскага. Пісьменніка з Божай іскрынкай і надзвычай зычлівага, найдабрэйшай душы чалавека. Як ён умеў захапляцца ўсім, што ўмяшчае ў сябе ёмкае слова ПРЫГАЖОСЦЬ! Ён — выдатны майстар слова. Нездарма яго творы з ахвотаю публікавалі нават маскоўскія выданні. Ён — член Саюзаў пісьменнікаў Расіі і Беларусі.

Атрымаўшы ў Львоўскім вышэйшым ваенна-палітычным вучылішчы журналісцкую адукацыю, працаваў у ваенных газетах. Большая частка вандровак Мікалая Еляneўскага па гарнізонах прыйшлася на Сярэднюю Азію і супала з самым неспакойным часам распаду вялікай краіны. Падпалкоўнікам запасу вярнуўся ён у 1990-х на Радзіму. Менавіта гэтаму перыяду прысвечаны і апошні раман Мікалая Васільевіча «Мытари и фарисеи», апублікаваны ўлетку 2012-га часопісам «Нёман». У многім ён аўтабіяграфічны, невыпадкова і прозвішча галоўнага героя — Лунянін, а па-нашаму — жыхар Луніна, роднай вёскі Міколы.

Ён вельмі любіў сваю малую радзіму. Часта прыязджаў сюды і заўсёды быў жаданым госцем у роднай школе, дзе менавіта па яго ініцыятыве пачалі ладзіць паэтычнае свята «Лунинская осень», якое потым набыло статус абласнога пісьменніцкага фестывалю.

З-пад пяра Мікалая Еляneўскага выйшла некалькі выдатных кніг, якія сталі сапраўдны з'явай не толькі на Берасцейшчыне, але і ва ўсёй беларускай літаратуры: «Небесный штурмовик», «Время пастыря», «Наперсный крест»... Спіс таленавітых твораў можна было б працягваць. І на гэта спадзяваліся мы, яго сябры і калегі. Спадзяваліся і верылі. Мікола мужна супрацьстаяў хваробе, але... Да свайго 65-га дня нараджэння ён не дажыў крыху менш як тры месяцы. Засталіся нявыдадзенымі некалькі рукапісаў. Неўзабаве яны абавязкова ўбачаць свет у выглядзе асобных кніг. Гэта — наш агульны клопат.

Дзелім горыч страты з блізкімі і роднымі.

**Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі**

Кніжны свет

25 студзеня 2013 г.

*Паралелі*

# Без стэрэатыпаў!

Нам, беларусам, якія ў большасці не надта цікавяцца ўласнай культурай і літаратурай, складана ўявіць, што студэнты Дзяржаўнай акадэміі славянскай культуры, што ў Маскве, па ўласнай ініцыятыве (!) ствараюць мультымедыйныя праекты, пішуць навуковыя даследаванні, глыбока вывучаюць нашу культуру. Але гэта сапраўды так! І ў многім іх зацікаўленасць абумоўлена працай Юрыя Лабынцава, доктара філалагічных навук, вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута славяназнаўства РАН, прафесара, акадэміка Дзяржаўнай акадэміі славянскай культуры. Пра адметнасці выкладання беларусазнаўства маскоўскім студэнтам — наша гутарка з Юрыем Аляксандравічам.



**Марына ВЕСЯЛУХА**

**— У адпаведнасці з праграмай для вывучэння курса «Гісторыя беларускай культуры» адводзіцца 32 вучэбныя гадзіны. Няўжо гэтага дастаткова, каб пазнаёміць студэнтаў з адметнасцямі нашай культурнай спадчыны?**

— Перш за ўсё хачу звярнуць увагу на тое, што гаворка ідзе пра спецкурс, і 32 вучэбныя, то бок лекцыйныя, гадзіны — зусім не малы час для гэтага. Да таго ж, праграмай прадугледжана шматгадзінная самастойная індывідуальная праца студэнтаў, да якой дадаецца шматдзённая практыка з выездам у Беларусь. Дарэчы, апроч спецкурса «Гісторыя беларускай культуры» я чытаю ў Дзяржаўнай акадэміі славянскай культуры (ДАСК) «Гісторыю беларускай літаратуры». Абодва спецкурсы з'явіліся ў ДАСК па маёй ініцыятыве каля дзесяці гадоў таму. Зрэшты, лекцыі ў ВНУ для мяне — дадатковы від заняткаў. Асноўная дзейнасць — навуковая праца ў Інстытуце славяназнаўства Расійскай акадэміі навук, дзе больш як дваццаць год таму ў мяне атрымалася ініцыіраваць стварэнне двух новых самастойных кірункаў — беларусазнаўства і ўкраіназнаўства, стварыць адпаведныя навуковыя цэнтры і стаць на чале Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў.

**— На якіх адметнасцях беларускай культуры вы асабліва акцэнтуеце ўвагу студэнтаў падчас заняткаў?**

— Павінен сказаць, што для маіх студэнтаў беларуская культура, і старажытная, і сучасная, уключна з яе літаратурным кампанентам, больш зразумелая і вядомая, чым, напрыклад, для польскіх студэнтаў-беларусістаў у Польшчы, не беларусаў па паходжанні. На тое ёсць, канечне, вялікая колькасць прычын. Зрэшты, некаторыя нашы студэнты ў падобных адносінах не адстаюць і ад калег-беларусаў з Польшчы, якія ў сваіх ВНУ рыхтуюцца стаць спецыялістамі-беларусістамі. Усё гэта мне давозіцца ўлічваць у ходзе заняткаў і шмат увагі надаваць тым захапленням і перавагам асобных студэнтаў, якія стараюся выявіць ужо пры першай нашай сустрэчы. Напрыклад, лацінскамоўнай і польскамоўнай літаратуры Беларусі, праблемам беларускага культурнага памежжа, народнаму мастацтву, рэцэпцыі беларускай культуры ў Маскве і Расіі, музычнаму мастацтву XX ст., надта любімай паўсюль у нас творчасці Васіля Быкава, з якой студэнты ў большасці знаёмыя яшчэ да паступлення ў ВНУ, і многаму іншаму.

**— Хто ў асноўным з'яўляецца наведвальнікам заняткаў у межах спецкурса?**

— Усе мае студэнты — славісты, сярод іх многа паланістаў, таму польская культурныя паралелі так ці інакш пастаянна прысутнічаюць, але ў строгай сувязі з гісторыяй беларускай культуры. Студэнтаў-сербістаў і балгарыстаў, як, прынамсі, і ўсіх астатніх, надта цікавяць тэмы, звязаныя з праваслаўным складнікам беларускай культуры, жыційнай літаратурай, вобразамі свяціцеля Кірылы Тураўскага і святой Еўфрасінні Полацкай; багемістаў — жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны і пратэстантаў у Беларусі. Некаторыя студэнты апроч абавязковай для ўсіх пісьмовай работы пішуць затым курсавыя і абараняюць дыпломы на беларусазнаўчыя тэмы. Адзін з самых паспяховых за апошні год прысвечаны сучаснай беларускай харэаграфіі. Апроч дыпломных работ ужо з'явіліся першыя кандыдацкія дысертацыі, звязаныя з гісторыяй беларускай культуры. У 2009 годзе ў ДАСК абаронена кандыдацкая дысертацыя па гісторыі праваслаўнай культуры беларусаў сучаснай Польшчы.

**— Ці змяняецца ўяўленне студэнтаў пра беларускую культуру пасля знаёмства з матэрыялам? І ў цэлым — стаўленне да Беларусі? Ці разбураеце стэрэатыпы?**

— Канечне ж, спецкурс і — шырэй — нашы зносіны падчас заняткаў паглыбляюць веды студэнтаў пра Беларусь і гісторыю яе вельмі багатай культуры. Шмат што яны адкрываюць для сябе ўпершыню, шмат што ўдакладняюць і дэталізуюць. Вобраз многавяковай беларускай культуры ў выніку асэнсоўваецца імі не толькі як нейкая цэласнасць, на што, уласна, і накіраваны ўсе мае асноўныя намаганні, але як вялізная і яшчэ не дастаткова вывучаная прастора, у адкрыцці якой яны могуць паспяхова ўдзельнічаць на самых розных узроўнях — аж да навукова-даследчага. Стаўленне да Беларусі як да дзяржавы ў студэнтаў заўсёды зацікаўленае, а пасля практыкі ў краіне — проста захопленае. Жывое знаёмства з гарадскім і вясковым асяроддзем Беларусі, наведванне выставак, тэатраў, музеяў натхняе на стварэнне рознага кшталту тэкставых і мультымедыйных работ, альбомаў, даведнікаў, прысвечаных культуры і побыту беларускага народа. Якія ўжо тут стэрэатыпы!

**— У 2010 годзе такі спецкурс быў уведзены ўпершыню. Ці мэтазгодна яго вывучэнне студэнтамі?**

— Першы мой спецкурс «Гісторыя беларускай літаратуры» стаў чытацца ў ДАСК з 2004 года. Затым быў распрацаваны спецкурс «Гісторыя беларускай культуры». Яны заўсёды дапаўнялі адзін аднаго, але апошні больш універсальны і разлічаны ў асноўным на культуролагаў, у той час як «Гісторыю беларускай літаратуры» я чытаў толькі на філалагічным факультэце. Абодва спецкурсы ўжо прайшлі выпрабаванне часам, і можна цвёрда сказаць, што яны патрэбны студэнтам, тым больш што сталі першымі ў гісторыі вышэйшай адукацыі ў Расіі.

**— Чаму гэты курс з'явіўся так нядаўна? Няўжо раней не ўзнікала неабходнасці асобнага расповеду пра беларускую культуру?**

— Неабходнасць у гэтым я адчуваў даўно, з пачатку 1990-х, калі арганізоўваў Цэнтр беларусазнаўчых даследаванняў у РАН. Спецыялістаў па гісторыі, культуры і літаратуры Беларусі ў Расіі не рыхтавалі, але паспрабаваць зрабіць гэта мне ўдалося толькі ў пачатку 2000-х гадоў. Не так даўно на заліку адна дапытлівая студэнтка і мне задала складанае пытанне: чаму ў Маскве даўно і паспяхова дзейнічае Нацыянальны культурны цэнтр Украіны на Арбаце, куды заўсёды можна прыйсці, але няма аналагічнага беларускага, а з Беларуссю ў нас асаблівыя саюзныя адносіны? Гэта да таго, што дасягненні сваёй культуры цалкам паспяхова робяць даступнымі для ўсіх ахвотных у Расіі і ў яе сталіцы многія краіны. Напрыклад, Украіна, Польшча, Літва, з якімі мяжуе Беларусь. Гэтыя краіны маюць свае культурныя цэнтры ў Маскве, а таксама іх філіялы па ўсёй Расіі. Зрэшты, дзяржаўныя беларускія культурныя цэнтры ўжо з'явіліся ў Варшаве і Кіеве, але тут пакуль няма.

**(Заканчэнне на стар. 10.)**

*Прэзентацыя*

# Класік, што выклікаў духаў

Інстытут культуры Беларусі стаў месцам правядзення імпрэзы «Ад года Якуба Коласа да года Янкі Маўра», прысвечанай сёлетняму юбілею: 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Маўра.

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

У мінулым годзе на дзяржаўным узроўні былі адзначаны юбілеі класікаў беларускай літаратуры: Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка. Сёлета эстафету мусяць падхапіць імпрэзы, звязаныя са 130-годдзем класіка айчыннай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра.

Літаратуразнаўца Адам Мальдзіс узгадаў эпізод са свайго дзяцінства. У гады вайны яны разам з хлопцамі-аднагодкамі вельмі цікавіліся кнігамі, аднак у сялян іх не было. І вось у адным з маёнткаў яму ў рукі патрапіла выданне «У краіне райскай птушкі» на польскай мове. Але паколькі вокладка была адарвана, Адам Восіпавіч доўгі час не ведаў прозвішча аўтара. Пасля вайны ён пісаў лісты ў газеты, і толькі «Піянерская праўда» яго завочна пазнаёміла з Янкам Маўрам.

Як распавёў Міхась Міцкевіч, сын Якуба Коласа і адначасова зяць Янкі Маўра, яго цесць марыў у дзяцінстве праплысці па ўсіх рэках свету. Калі вырас, часткова здзейсніў мару: на першыя зробленыя грошы купіў веласіпед і вандраваў па Беларусі. Паводле ўспамінаў М. Міцкевіча, Я. Маўр вельмі любіў праводзіць спірытычныя сеансы, у яго нават былі два сшыткі, дзе падрабязна фіксаваліся размовы з духамі Васка да Гама, Напалеона і Льва Талстога.

Эстафету сямейных успамінаў падхапіла Марыя Міцкевіч, унучка Якуба Коласа і Янкі Маўра. Паводле яе згадак, Я. Маўр шмат расказваў дзецям пра розныя краіны і вандроўкі. Паколькі класік дзіцячай літаратуры добра ведаў эсперанта, да яго прыходзіла шмат лістоў ад іншых эсперантыстаў. Між тым Марыя Міхайлаўна ў дзяцінстве збірала маркі. Дык вось дзяўчынка не атрымлівала марку з канверта, пакуль не даведвалася пра краіну, з якой той прыйшоў.

Цяпер Марыя Міцкевіч рыхтуе кнігу пра Янку Маўра, якая павінна выйсці ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі». Туды будуць уключаны ўспаміны і рэдкія фотаздымкі. Магчыма, будзе надрукавана гістарычная аповесць Я. Маўра пра Тэўтонскі ордэн, якая пры жыцці аўтара засталася незаўважанай.

Пры падрыхтоўцы выдання Міхась і Марыя Міцкевічы атрымалі магчымасць карыстацца ўнікальнай картатэкай, якая захоўваецца ў Інстытуце беларускай культуры. У пэўнай ступені яе можна лічыць пераемніцай базы дадзеных, на падставе якой у 1990-я гады быў створаны ўнікальны даведнік «Беларускія пісьменнікі».

# На скрыжаванні лёсу

## ДА 110 -ГОДДЗЯ АБРАМА БРАЗЕРА

Людміла НАЛІВАЙКА

Беларускае мастацтва і літаратура першай паловы ХХ ст. — узорны прыклад творчых узаемасувязей таленавітых асоб, акрыленых ідэяй нацыянальнага Адраджэння, якія ведалі адзін аднаго асабіста, падзялялі светлыя і змрочныя часіны жыццёвых перамен. Лёс звёў у Мінску двух творцаў: волата беларускай літаратуры Янку Купалу і выдатнага скульптара, графіка і жывапісца Абрама Бразера. З часу гэтых сустрэч захаваўся выразны графічны партрэт Янкі Купалы (профіль) 1934 года. Выхаванец Парыжскай Акадэміі мастацтваў, А. Бразер знаходзіўся пад моцным уплывам французскага сімвалізму, арыентаванага ў пачатку ХХ ст. на пошук новых моцных духам герояў, сапраўдных пракокаў свайго часу. Такім ён і намаляваў паэта, стомленага ад перажыванняў, узлётаў і падзенняў. На твары Купалы адбіваецца як святло творчага натхнення, так і цень сталіншчыны. Вельмі выразны партрэт, які мог быць выкананы ў рэльефе ці ў аб'ёмным скульптурным адлюстраванні. Балазе, у 1920-х у Бразера ўжо з'явіліся сапраўдныя скульптурныя шэдэўры: першадрукара Ф. Скарыны (1925), акцёра С. Міхоэлса (1926) і інш. На жаль, спадчына скульптара была амаль цалкам страчана ў 1941 годзе. Літаральна падчас правядзення яго выстаўкі ў Мінску пачалася вайна, і творы загінулі. Трагічным для паэта і мастака аказаўся і наступны год: Янка Купала пры нявысветленых абставінах загінуў у Маскве. Абрам Бразер трапіў у канцэнтрацыйны лагер Трасцянец, дзе абарвалася яго жыццё. Тым не менш мастацкая спадчына майстра выклікае захапленне: шырыня творчых задум, неабмежаваная магчымасць працаваць у розных відах выяўленчага мастацтва — дастойны прыклад для сучасных выпускнікоў творчых навучальных устаноў і вопытных прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай мастацкай школы. У Нацыянальным мастацкім музеі захоўваецца як выключныя рарытэты жывапісныя і графічныя творы: «Партрэт Ю. Пэна», «Партрэт хлопчыка» і інш. Такім чынам, створанае застаецца. Творчы шлях А. Бразера — яскравы прыклад актуальнасці як для свайго часу, так і для будучыні.




*Абрам Бразер «Партрэт Я. Купалы». 1934 г.*

# Адказ — вечнасць

**Кожны майстар мае права на тое, каб зрабіць свой твор багатым на загадкі. Выдатны беларускі скульптар, выбітны выкладчык Гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка Леанід Давыдзенка пакінуў шмат таямніц, якія яшчэ доўга будуць разгадваць яго сябры, калегі, шматлікія вучні. На жаль, без самога творцы — мінула ўжо больш за 10 год, як Леанід Давыдзенка заўчасна пайшоў з жыцця.**

Алеся АРЫЦКАЯ,
фота Кастуся Дробава

Выстаўка «Сумоўе драўлянай скульптуры», прысвечаная памяці Леаніда Давыдзенкі, працуе да 2 лютага ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. У экспазіцыі прадстаўлены работы майстра, а таксама яго калег, творчых паслядоўнікаў і вучняў — А. Фінскага, У. Слабодчыкава, П. Лявонава, А. Навасёлава, А. Мядзведзева і іншых. Сярод іх — творы маладых скульптараў І. Арцімовіча і П. Лявонава, якія сталі ініцыятарамі імпрэзы.

— Эпіграфам да выстаўкі з'яўляюцца творы самога Давыдзенкі, — лічыць мастацтвазнаўца, пісьменніца, выкладчыца Галіна Багданава. — У Аанатоля Сыса ёсць цудоўны верш, дзе ён разважае пра тыя часы, калі багамі былі птушкі і звяры, а на рытарычнае пытанне «Хто ж пакланяўся багам?» адказвае апошнім радком: «А вы паглядзіце ў сябе: вы ж — дрэва». Вось гэтая душа-дрэва, якая выяўляецца, калі нараджаецца скульптура, і прысутнічае на выстаўцы. Напачатку, калі мы абмяркоўвалі назву, у галаве круцілася «Застылае і жывое», бо на двары — зіма, снег, лёд. А тут — цёплае дрэва. Пасля ўжо нарадзілася назва «Сумоўе драўлянай скульптуры». «Сумоўе», якое не перакладаецца на рускую мову, і дзве загадкавыя літары «ў» у назве вельмі дарэчы. Давыдзенка калісьці скончыў матыматычную школу. Але замест матэматыкі, дзе дастаткова рашыць задачу, каб знайсці адказ, ён выбраў творчасць, дзе адказ — вечнасць. Скульптар заўчасна пайшоў з жыцця, не паспеўшы дарабіць свой апошні твор, але, я думаю, вучні зразумелі, што ў ім прысутнічае нейкая загадка, якую яны яшчэ не разгадалі. Таму і стварылася гэтая выстаўка. Яна таксама загадка для тых, хто займаецца творчасцю, і шчасце мастакоў у тым, што ёсць магчымасць ні на што не даваць канкрэтнага, як у матэматыцы, адказу.



*Аляксандр Фінскі. Натхненне. 2005.*

Леанід Давыдзенка вызначаўся своеасаблівай творчай манерай, пераадольваў драўляную скаванасць, выказваючы пераходныя станы ад спакою да руху. Яго работы нясуць зарад унутранай энергіі. Аднак майстар пакінуў не толькі вялікую колькасць твораў. Галоўнае — ён змог выхаваць новае пакаленне мастакоў на ўласным прыкладзе. Скульптар, прафесар БДАМ Анатоль Арцімовіч, падкрэслівае, што з нічога і будзе нічога, а для пачынанняў заўсёды патрэбна аснова. У 1960-х, якія прынеслі зусім новы погляд на скульптуру, Давыдзенку пашанцавала з такімі настаўнікамі, як Глебаў, Бембель — людзьмі з гіганцкім вопытам і глыбокай жыццёвай філасофіяй. Ён пераняў ад іх разуменне кампазіцыі, методыку выкладання, каб пасля ўсе веды і напрацоўкі перадаць вучням. «Менавіта ў гэтым і заключана пераемнасць, а сам майстар працягвае жыць у творах сваіх вучняў», — адзначыў Анатоль Арцімовіч. Як не згадзіцца з такой высновай, калі выставачная зала музея поўнілася вучнямі і калегамі скульптара.

— Хай не крыўдуюць астатнія майстры, але ўся беларуская скульптура XXI стагоддзя, як мне здаецца, прадвызначана творчасцю Давыдзенкі, і гэта не перабольшванне — ён быў вельмі таленавіты і шматгранны мастак-эксперыментатар, — адзначае Галіна Багданава. — Для беларускай культуры ён быў тое самае, што Радэн у XIX ст. — для сусветнай. Але самая галоўная яго заслуга ў тым, што ён выхаваў вялікую колькасць вучняў. Мне давялося працаваць з ім поруч, і я заўсёды захаплялася яго здольнасцю бачыць дыяпазон творчасці пэўнага вучня, тое, кім ён стане ў будучыні. Напрыклад, тут прадстаўлены работы Аляксандра Сакалова. Цяпер ён моцны мастак, аднак маштабнасць яго таленту Давыдзенка заўважыў тады, калі той быў у пятым класе! Менавіта гэта юнацкае, дзёрзкае ўспрыманне натуры, матэрыялу, вучняў, сваіх калег і дало магчымасць нараджэння такой унікальнай экспазіцыі.

Усе творы яднае шчырасць выказвання, вострае адчуванне сучаснасці, высокае майстэрства. Скульптары, як і сам Л. Давыдзенка, здаецца, чуюць і перадаюць нам жывую пульсацыю дрэва, з якога натуральна і нязмушана нараджаюцца самыя розныя вобразы.



*Арцём Мядзведзеў. Канфлікт. 2012.*

## Арт-карагод

Дзіяна КАРОЛЬ

Мастацкая галерэя «Беларт» да 29 студзеня запрашае прыхільнікаў жывапісу наведаць юбілейную выстаўку мастака з Маладзечна Уладзіміра Тамашэвіча «Неад'емнае», на якой прадстаўлена серыя краявідаў 2005 — 2010 гг. У сваёй творчасці майстар доўжыць традыцыю лірычнага пейзажнага жывапісу. Пазбаўленыя канкрэтызацыі, выкананыя ў абагульненай жывапіснай манеры, стрыманыя па каларыстычным вырашэнні, жывапісныя кампазіцыі Уладзіміра Тамашэвіча перадаюць аўтарскае, паэтычнае ўспрыманне някідкай прыгажосці беларускай прыроды ў разнастайных яе праявах. Выстаўка арганізавана Беларускім саюзам мастакоў.

На сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі 28 студзеня адбудзецца паказ спектакля «Игвитта, или Как это делали во Франции» Генадзя Фаміна. Канву спектакля складаюць звычайныя пабытавыя гісторыі, якія, па ўсіх законах фарса, напоўнены сакавітым, вострым гумарам. Героі трапляюць у розныя жыццёвыя сітуацыі — то камічныя, то сумныя і сур'ёзныя — і прымушаюць гледача не толькі смяяцца, але і задумвацца над складанымі жыццёвымі абставінамі, пераацэньваць традыцыйныя каштоўнасці і звычаі. Спектакль дае магчымасць пабачыць складанае ў простым, сумнае ў смешным і паспачуваць героям, якія трапляюць у пікантныя гісторыі. Ролі выконваюць Вікторыя Страганкова, Алена Родак, Ганна Саламянская, Канстанцін Міхаленка, Генадзь Фамін, Аляксей Клімовіч. Кампазітар, музычны кіраўнік — Аляксандра Садлер. Аўтар ідэі — Генадзь Фамін.

Музычны салон Гомельскага палацава-паркавага ансамбля 31 студзеня прадставіць гледачам канцэртную праграму «Пытанні і адказы ў оперных шэдэўрах». Чаму не згасае цікавасць да опернай музыкі? Адказ просты! Таму, што такія оперныя геніі, як В. А. Моцарт, Дж. Вердзі, Дж. Пучыні і іншыя ў сваіх оперных шэдэўрах задаваліся спрадвечнымі пытаннямі жыцця і смерці, кахання і рэўнасці, радасці і гора, бацькоў і дзяцей. Самыя прыгожыя арыі вядомых оперных кампазітараў Моцарта, Вердзі, Чайкоўскага і іншых. у выкананні саліста Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, лаўрэата міжнароднага конкурсу Аляксея Мікуцеля (тэнар), лаўрэата міжнароднага конкурсу Алесі Брэль (сапрана) і салісткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра Анастасіі Мажуць (сапрана) — такім будзе напаўненне гэтай вечарыны опернай музыкі ў Музычным салоне музея.

Выстаўка «Чатыры пэндзлі: Бархатковы» будзе праходзіць да 12 лютага ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Традыцыі рэалістычнага пейзажнага жывапісу паступова становяцца спрошчаным механічным узнаўленнем знойдзеных прыёмаў і схем. Пэндзлік, які танчыць па палатне, паўсюдна замяняе мышка, якая танчыць, але ўжо па дыванку, ды і танцы крыху іншыя. Спробы ўхапіць феномен класічнага напрамку ў жывапісе прынялі ў дадзеным выпадку форму выстаўкі жывапісных твораў чатырох мастакоў аднога прозвішча: Антон, Вітольд, Алена, Ігар. Для постмадэрнісцкага гледача ўсе «рэальныя» пейзажысты — падобныя, бо «Прырода — гэта цудоўна» і больш казаць няма пра што. Але лічбавая фатаграфія задавальняюць патрабаванні ў прыгажосці толькі часткова. Бо культура — ні што іншае, як вязка ключоў. Пэндзаль — гэта ключ. Каб не развучыцца ім карыстацца, трэба час ад часу браць яго ў рукі. Такую магчымасць якраз і прадстаўляе праект «Чатыры пэндзлі: Бархатковы».

# «Старая новая зямля» Тэадора Герцля

Пры словах «Новая зямля» мы заўсёды прыгадваем твор Якуба Коласа. Але вядомая таксама «Старая новая зямля» (Altneuland, 1903) Тэадора Герцля, якая не толькі па назве, але і па сутнасці блізкая Коласавай паэме праз агульнае апеляванне да мары прарока Ісаі пра «новую зямлю пад новым небам».

**Таццяна СТУДЗЕНКА**



Прэзентаваць сучасніку твор яўрэйскага пісьменніка — значыць не толькі рэанімаваць каштоўнасны патэнцыял феномена зямлі, які паступова страчваецца ва ўрбаністычную эпоху, але і ўявіць драматычную падаплёку колішняй «рэанімацыі» гэтай каштоўнасці ў беларускім і яўрэйскім культурным кантэксце.

У Беларусі пачатку XX ст. (час нараджэння Коласавага твора) гэта драма «нетрывалай» зямлі, якая нібы выслізгвае з рэальнасці — з-за геапалітычнай нявызначанасці ўласна беларускага быцця паміж Захадам і Усходам, з-за фатальнай нястачы зямлі ў сялянскім індывідуальным карыстанні. Адчужаная зямля — так можна вызначыць гэты стан. Праблема нявызначанасці і адчужанасці стаяла і ў Ізраілі таго часу, хоць і па іншых прычынах. Галоўнае — у выніку «дыялектыкі святасці»: з цягам часу статус святой зямлі Ізраіля абсалютызаваўся настолькі, што яна стала ўспрымацца па-за рэальнасцю і ў рэшце рэшт апынулася ў запусценні, зрабілася непрыдатнай для жыцця.





У рамане-паэме Т. Герцля перад намі свайго роду маніфест магчымасці годнага быцця, міру і дабрабыту, магчымасці, якую дае зямля, — месца і стымул жыццятворчасці. Памятаем, што такі вызначальны сэнс і Коласавай «Новай зямлі». Чытаючы тэкст яўрэйскага пісьменніка ў яго блізкасці да беларускай паэмы, глыбей і паўней усведамляеш сутнасць паняццяў «зямля старая» (Радзіма, Айчына, Бацькаўшчына), «зямля новая» (тая, што заўсёды дае магчымасць жыццятворчасці), зямля ўвогуле (месца спраўджання чалавека і нацыі).

Тэадор Герцль (Біньямін Зееў, 1860 — 1904), аўстрыйскі яўрэй, уплывовы журналіст, модны літаратар, толькі ў 36 гадоў зацікавіўся лёсам свайго народа. За кароткі час ён набыў славу ратавальніка гэтага народа, прапанаваўшы праект сіянізму — руху вяртання яўрэяў на гістарычную радзіму. Для Герцля сіянізм — фактар усталявання міру і згоды ў самым шырокім сэнсе, блізкім мары Ісаі пра сусветную гармонію. Ён быў упэўнены, што пляцоўкай усталявання — няхай толькі эксперыментальнай — гістарычна прызваная служыць Святая зямля.

Герцль наведаў Палесціну ў 1898 годзе і свае ўражанні выклаў у першай частцы рамана «Альтнойланд», увявіўшы затым (у другой частцы), як гэтая зямля магла б выглядаць праз дваццаць гадоў. Найбольш дзейсны сродак падкрэсліць факт чараўнічагаператварэння Нішто ў Нешта — кантраст: не толькі як мастацкі прыём, але перадусім найбольш пераканаўчы крытэрый эфектыўнасці сіянісцкай практыкі і, дарэчы, — выклік жыццятворчасці новых імігрантаў.

«Брудныя запушчаныя вуліцы», «агідны смурод», «магільная плесень», «гранічны ўпадак» — такім паўстае міжземнаморскі порт Джафа. Адтуль у глыб краіны — «убогая вузкакалейка» праз «выпаленыя палі», «лысыя схілы ўзгоркаў», «топкія даліны», «панурыя пяскі»(шлях у старажытную сталіцу). А вось і яна сама — «горад цароў» Іерусалім: «шквал кідкіх фарбаў, натоўпы абадранцаў на брудных душных вулках, жабракі, калекі, галодныя дзеці, крыклівыя жанчыны, дакучлівыя гандляры». «Калі гэта насамрэч наша зямля, — разважае Фрыдрых (галоўны герой, еўрапейскі яўрэй) — яна адпавядае стану нашага народа». У іроніі — глыбокі быційны падтэкст: зямля і яе народ ёсць адзінства. Народ знаходзіць з зямлі — зямля прыходзіць у заняпад, а людзі не знаходзяць годнага прытулку. Выхад адзін: «змарнаваныя саджанцы варта перамяшчаць на спрыяльны грунт — гэта датычыць і чалавечых істот». Згодна з думкай Герцля, лепш за ўсіх гэта зразумелі рускія яўрэі, магчыма таму, што ім больш за іншых даваўся пакутаваць, магчыма — дзякуючы гістарычна набытым асаблівасцям менталітэту, у прыватнасці, энтузіязму першапраходцаў.

> *У рамане-паэме Т. Герцля перад намі свайго роду маніфест магчымасці годнага быцця, міру і дабрабыту, магчымасці, якую дае зямля, — месца і стымул жыццятворчасці. Памятаем, што такі вызначальны сэнс і Коласавай «Новай зямлі».*

Заўважны абмен рэплікамі: «Малочнамядовая казка сябе зжыла» (Фрыдрых). — «Яна заўсёды жывая», — адказвае яму рускі яўрэй Айкенштам.

...Праз дваццаць гадоў — ізноў вандроўка герояў у Іерусалім: шляхам апрацаваных да самых вяршынь пагоркаў з тэрасамі вінаграднікаў, гранатавых, фігавых дрэў («нібы ў часы Саламона»), праз лесагадавальнікі і пасадкі, якія ўжо прыжыліся (эўкаліпты, сосны, кедры). Гэтыя краявіды — не толькі надзея патэнцыяльным імігрантам, чытачам Герцля, але і дакор старому ішуву, ультраартадоксам, якія не далі Святой зямлі ні кроплі вады і ні сантыметра ценю — у перакананні, што біблейскі Эдэм не сумяшчальны ні з сельскагаспадарчым, ні тым больш з індустрыяльным «Эдэмам». Не сумяшчальны? Дык вось жа «вясёлая даліна з незвычайным багаццем кветак... раскошны дыван, сатканы з белых, чырвоных, жоўтых, блакітных, аксамітных фарбаў». Ледзь заўважны ветрык даносіць з загадкавага «дывана» «хвалю водараў» — і становіцца зразумела, што перад вандроўнікамі — плантацыя парфумернай кампаніі, пра якую яны начутыя: «жасмін, туберозы, герань, нарцысы, фіялкі і ружы ў неймавернай колькасці». «Красаванне і зелень паўсюдна. Юны свет юнацтвам дыхае...» — у захапленні герояў адчувальныя шкадаванне і нават сорам за дваццаць гадоў бяздзейснага жыцця замест дваццаці гадоў творчай працы.

Утапічны праект Герцля — адзін з апошніх у XX стагоддзі: тыя безумоўна ідэальныя мадэлі грамадскага добра- і параўладкавання, якія пачалі здзяйсняцца ў СССР, хутка выклікалі да жыцця іншы жанр — антыўтопію. Яе стваральнікі прыклалі шмат намаганняў дзеля разбурэння рознага кшталту міфаў, але ніводны не стварыў альтэрнатывы таму, што разбуралася: ні Замяцін, ні Оруэл, ні Хакслі, ні іншыя, менш рэпрэзентатыўныя постаці. Твор Т. Герцля вызначаецца тым, што ў якасці ўтопіі пазбягае тэндэнцыйнасці, уключаючы антыўтапічны элемент папярэджвання. Пры гэтым не кідаецца ў лямант дэкларавання беспрасветнасці, бо з самага пачатку пазіцыянаваны альтэрнатывай варожасці і адчужэнню.

Папярэджванне датычыцца наступнага. Набыўшы радзіму ў пакутах і цяжкай працы, пасля стагоддзяў выгнання, нястачы, лёгка адчуць уласніцкі інстынкт. Набыты «дом» — наш дом («Тое, што зроблена нашымі рукамі, павінна заставацца нашым»). Але яўрэі не ў адзіноце адрадзілі Боскае Абяцанне, нагадвае Герцль, каб і цяпер, ужо ў другі раз, марыць яго «прысвоіць». У даўнія часы іх продкі біліся над зямлёй-пяском і атрымлівалі вельмі сціплыя ўраджаі, таму што не займаліся меліярацыяй. Яўрэі пачатку XX стагоддзя — займаецца, бо мае адукацыю і досвед, атрыманыя ў дыяспары. Гарады «ніколі яшчэ не будаваліся так хутка і якасна, таму што нідзе і ніколі не быў задзейнічаны такі разнастайны вопыт апошніх дасягненняў цывілізацыі. ...Мы павінны былі проста перанесці ўжо наяўныя дасягненні ў нашу краіну». Калі досвед усяго свету задзейнічаны ў квітненні зямлі Ізраіля, значыць, ні адзін іншаземец не чужы гэтай зямлі.

Адказ на пытанне, у якой меры свецкая мадэль Герцля адпавядае духу біблейскай традыцыі, мы знойдзем у той самай традыцыі. Калісьці адзін з найбольш аўтарытэтных яе мысляроў Марцін Бубер пісаў: «Спаўненне Боскага Закону дзейснае толькі тады, калі адбываецца ў паўнаце сіл і ў здольнасці асобы да паўнаты патэнцый». Адпавяданне статусу і выгляду Святой зямлі магчыма разглядаць як імкненне стварыць падставы для паўнаты быцця і творчасці.

**P. S.:** *Хачу выказаць падзяку маім настаўнікам, без якіх не магла б адбыцца гэта публікацыя: Галіне Веніямінаўне Сініле, якая расказала мне пра кнігу Т. Герцля, а таксама Івану Віктаравічу Жуку — ён навучыў бачыць у літаратурным факце заўсёды больш, чым толькі літаратуру.*



# Новы раман таджыкскага беларуса

У Душанбэ пабачыў свет гістарычны раман, адным з аўтараў якога з'яўляецца беларус Леанід Чыгрын.

**Максім РАЎНАПОЛЬСКІ**

Леанід Чыгрын — добра вядомы ў Таджыкістане празаік, паэт, перакладчык, кінасцэнарыст. А нарадзіўся ён у пачатку Вялікай Айчыннай вайны на Віцебшчыне, у пасёлку Асінторф. Яшчэ ў маленстве разам з маці пераехаў у Таджыкістан. Дзяцінства беларускага хлопчыка, які спярша страціў маці, а пасля і бацьку, прайшло ў горадзе Канібадам. Пасля — вучоба ў Душанбінскім пединстытуце, служба ў арміі, журналісцкая і літаратурная работа.

У суаўтарстве з таджыкскім празаікам і драматургам Ато Хамдамам наш зямляк доўгія гады працуе над цыклам аповесцей і раманаў «Таямніцы гісторыі». Апошні з выдадзеных твораў гэтай серыі — раман «Памылка Тамерлана». «Мае гістарычныя зацікаўленні як пісьменніка звязаны з Сярэдняй Азіяй, Таджыкістанам, Узбекістанам, памежнымі з імі краінамі. Як мастак, літаратар чытаю і перачытваю Генрыка Сянкевіча, Баляслава Пруса. У іх бяру ўрокі, звяртаю ўвагу на дэталі-драбнічкі. Але і ўнікаю ў іх мастацкае мысленне, у філасофію», — дзеліцца сваімі развагамі Леанід Аляксандравіч.

Будзем спадзявацца, што ў рамана «Памылка Тамерлана» — доўгае жыццё. І следам за душанбінскім выдавецтвам «Адзіб» яго заўважаць і іншыя выдаўцы, магчыма — і за мяжой. Выдадзены ж раман Л. Чыгрына і А. Хамдама «Вялікі Шаўковы Шлях» у перакладах на кітайскую, фарсі, узбекскую і таджыкскую мовы. Між іншым, імёны таджыкскіх пісьменнікаў ведаюць і ў Беларусі. Па-беларуску выдадзена кніга А. Хамдама і Л. Чыгрына «Подзвіг Эмамалі Рахмона». Ато Хамдам друкаваўся ў «Полымі» і «Літаратуры і мастацтве», Леанід Чыгрын — у «Нёмане». І вось што яшчэ заўважыў у размове з карэспандэнтам газеты «Літаратура і мастацтва» Леанід Аляксандравіч: «Усё маё жыццё — гэта ланцуг няспынных страт, пачынаючы з ранняга дзяцінства, і галоўны мой боль — гэта тое, што я застаўся без Радзімы. Таму любыя стасункі з Беларуссю для мяне надзвычай важкія і значныя...»

# Ліхтарнік на бездарожжы жыцця

Летась споўнілася 100 гадоў, як пайшоў з жыцця вядомы польскі празаік і публіцыст Баляслаў Прус (сапраўднае імя — Аляксандр Главацкі).
20 жніўня 2012-га польская і сусветная культурная грамадскасць адзначыла 165-ю гадавіну з дня яго нараджэння.

Ева ЛЯВОНАВА

Нарадзіўся пісьменнік у сям'і збяднелага шляхціца. Бацька працаваў канторшчыкам у памешчыцкім маёнтку паблізу г. Грубешава на Любліншчыне. Яшчэ гімназістам пад уплывам старэйшага брата Леана (у яго сям'і рана асірацелы Аляксандр знайшоў чарговы прытулак) будучы пісьменнік удзельнічаў у нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 — 1864 гадоў, быў паранены, трапіў у турму, адкуль яго, аднак, вызвалілі як непаўнагадовага. Пасля заканчэння люблінскай гімназіі вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Галоўнай школы ў Варшаве (1866 — 1868), марыў займацца навукай. Але лёс вырашыў іначай: юнак мусіў зарабляць на жыццё гувернёрам, рабочым на фабрыцы, рэпетытарам, супрацоўнікам газет і часопісаў.

У 1881 годзе выйшла з друку кніга Пруса «Першыя апавяданні», якая разам з наступнымі творамі засведчыла з'яўленне ў польскай літаратуры перакананага прадаўжальніка традыцый Юзафа Ігнацы Крашэўскага, Уладзіслава Сыракомлі, заходнееўрапейскіх мастакоў слова — Анарэ дэ Бальзака, Чарльза Дыкенса. Пазней Генрык Сянкевіч назаве свайго суайчынніка «рэалістам найвышэйшай вады». Сапраўды, проза Баляслава Пруса адметная разнастайнасцю чалавечых тыпаў, дакладнасцю ўзнаўлення маральнага і сацыяльнага аблічча героя, уменнем аўтара ў звыкла-будзённым заўважыць значнае. Згадайма адно з ранніх апавяданняў Пруса «Антэк», добра вядомае ў нас у перакладзе Янкі Брыля. Перад чытачом паўстае жыццё польскай вёскі, убогае і цёмнае. Лаканічна, скупа распавядае аўтар, як маці, каб вылечыць занямоглае дзіця, па падказцы знахаркі садзіць яго ў напаленую печ; няшчаснае дзяўчо б'ецца аб засланку, енчыць і, нарэшце, заціхае. І вось пасля тройчы прачытанай малітвы маці дастае «труп, скура на ім была чырвоная, сям-там аблезлая». Больш жахлівай карціны, здаецца, не намаляваць.

Але і насельнікам забытай Богам вёскі могуць быць уласцівыя прыродны талент («Антэк»), самаахвярнасць і здольнасць да подзвігу («На канікулах», «Міхалка», «Камізэлька»). Шляхту ж Прус крытыкуе за амаральнасць і духоўную дэградацыю («Анэлька», «Вёска і горад»), хцівасць і бесчалавечнасць («Праклятае шчасце», «Шкатулка»).

Іронія і сарказм, горыч і боль за зняважаную чалавечую годнасць гучаць у аповесці Пруса «Фарпост» (1885) — трагічнай гісторыі польскага селяніна Слімака, які не пажадаў саступіць сваю зямлю нямецкім каланістам. У той час як Слімак усім ахвяруе з-за дзесяці моргаў сваёй зямлі, памешчык падпісвае купчую, не задумваючыся, паміж танцамі. Пры ўсёй актуальнасці тэмы змагання з нямецкай каланізацыяй галоўнае ў «Фарпосце» ўсё ж сацыяльнае расслаенне самой вёскі.

Новыя канфлікты і характары падае Прус у рамане «Лялька» (1887 — 1889), які ўразіў сучаснікаў значнасцю праблематыкі і мастацкім наватарствам. Сам пісьменнік наступным чынам сфармуляваў задачу: «Даць характарыстыку грамадскаму жыццю, узаемаадносінам і тыпам некалькіх пакаленняў». Дзеянне ў творы адбываецца ў 1878 — 1879 гадах, аднак праз уключэнне ў структуру рамана дзённікавых запісаў аднаго з персанажаў часавыя межы рассоўваюцца, аповед набывае шматаспектнасць і эпічную маштабнасць.

Неадназначнае ўражанне пакідае галоўны герой рамана «Лялька» — Станіслаў Вакульскі. У маладосці ён на ўласным вопыце зведаў беднасць і ліхія нягоды, удзельнічаў у палітычных падзеях 1860-х гадоў, быў сасланы, пасля стаў паспяховым камерсантам-мільянерам. Здаровы пачатак у характары Вакульскага, абумоўлены сацыяльным паходжаннем і ідэаламі юнацтва, не дае яму спакою, абуджае ў ім імкненне дапамагаць людзям, прымушае увесь час адчуваць дакоры сумлення. Стан душэўнага крызісу абвастраецца і праз асабістую драму: герой расчароўваецца ў Ізабэле Ленцкай, усведамляе, што «лепей кінуць сэрца галоднаму сабаку», чым аддаць яго гэтай «ляльцы». Аўтар наўмысна пакідае адкрытым пытанне пра лёс Вакульскага. У любым выпадку — пайшоў ён з жыцця ці схаваўся ў Парыжы і прысвяціў сябе навуцы — відавочны маральны заняпад грамадства, у якім, кажучы словамі самога Пруса, «добрыя людзі гібеюць або ўцякаюць з яго, справы ж нягоднікаў квітнеюць».

Важнай асаблівасцю твора стала паглыбленне ў асобасныя праблемы, а несумненным дасягненнем аўтара «Лялькі» — уменне сацыяльна матываваць паводзіны герояў, даследаванне ж сацыяльных сувязей спалучаць з «падрабязнасцямі пачуццяў». Прус узбагаціў польскую прозу новай жанравай формай — сацыяльна-псіхалагічным раманам, што адбылося не без уплыву рускай літаратуры, у першую чаргу Льва Талстога і Фёдара Дастаеўскага.

У сусветна вядомым гістарычным рамане Баляслава Пруса «Фараон» (1895 — 1896) дзеянне разгортваецца ў Егіпце першай паловы XI ст. да н. э. Многае ў творы з'яўляецца плёнам аўтарскай фантазіі, у тым ліку яго асноўная інтрыга і вобраз фараона Рамсеса XIII (паводле вучоных-егіптолагаў, гісторыя гэтай дынастыі абарвалася на Рамсесе XII). Сацыяльна-палітычныя праблемы старажытнага Егіпта, відавочна, суаднесеныя з сучаснымі для пісьменніка падзеямі. Але і самі па сабе яны выклікалі ў аўтара глыбокую цікавасць. Прус прапанаваў уласную канцэпцыю падзей, якія адбываліся дваццаць дзевяць стагоддзяў таму, паказаўшы іх вытокі, гістарычнае значэнне і філасофскі сэнс.

Істотная асаблівасць «Фараона» — адыход ад гістарычнага рамана, які цягам доўгага часу ствараўся ў Еўропе па ўзоры раманаў Вальтэра Скота, што заўсёды мелі цэнтрам любоўна-прыгодніцкую фабулу. Традыцыю адмаўлення ад любоўнай інтрыгі на карысць актуалізацыі сацыяльна-палітычнага канфлікту, інтэлектуалізацыі аповеду прадоўжаць многія еўрапейскія пісьменнікі XX стагоддзя, якія будуць працаваць у рэчышчы гістарычнай прозы.

Мастацкая спадчына Баляслава Пруса і па сёння прыцягвае ўвагу чытача. Як пісаў у свой час Янка Брыль, прычына гэтага — у непадробнай шчырасці, якая ідзе ў польскага пісьменніка «ад цеплыні чалавечага сэрца, ад любові да праўды, да простага чалавека, ад глыбокай пашаны да яго абаяльнай сціпласці і непаказнога геразму». Дадамо: і ў жыццесцвярджальнасці яго твораў, у яго непарушнай надзеі на духоўную моц тых, каму гэтак несалодка даводзіцца ў штодзённым існаванні і хто, падобна да нябачнага і няўлоўнага гарадскога ліхтарніка, разганяе злавесную цемру ночы. Вельмі паказальны ў гэтым сэнсе заключныя радкі маленькага апавядання Пруса «Цені»: «У змроку жыцця, дзе род людскі мітусіцца навобмацак, дзе адны разбіваюцца на перашкодах, іншыя спадаюць у бездань, а пэўнай дарогі не ведае ніхто, дзе на аблытанага забабонамі чалавека палюе няшчасны выпадак, галеча, нянавісць, — на цёмным бездарожжы жыцця таксама завіхаюцца ліхтарнікі. Кожны з іх нясе агеньчык над галавой, кожны на сваёй сцежцы запальвае святло...» (пераклад Янкі Брыля). Гэткім ліхтарнікам, бяспрэчна, быў і застаецца і сам Баляслаў Прус.

Перазовы з прозай Баляслава Пруса можна знайсці і ў беларускай літаратуры, варта звярнуцца да мастацкай спадчыны Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Янкі Брыля (напрыклад, апавяданне «Сірочы хлеб») і інш. На беларускую мову творы Пруса перакладалі Міхал Чарнецкі (апавяданне «Міхалка», 1930), Янка Брыль (апавяданні «На канікулах», «Антэк», «Грахі маленства», «Шарманка», «Камізэлька», «Стасевы прыгоды», «Цені», «Жывы тэлеграф», «Міхалка», якія склалі апублікаваную асобным выданнем кнігу «Грахі маленства», 1981), Валеры Буйвал («Легенда старажытнага Егіпта», 2004). Некалькі раздзелаў з рамана «Лялька» выйшлі ў 2010 годзе ў перакладзе Міколы Хаўстовіча.

## Ліляна Хаб'янавіч-Джуравіч:

# «Я плачу, калі плачуць мае героі»

Раманы Ліляны Хаб'янавіч-Джуравіч, пісьменніцы з Сербіі — краіны, што яшчэ нядаўна перажывала жудасныя войны і бачыла, як паміраюць яе дзеці — надзвычай светлыя. Яны дыхаюць той шчырай, ненавязлівай рэлігійнасцю, якая вымушае задумацца, а пасля — выплакаўшыся, паспачуваўшы героям, — адчуць гэтую рэлігію ў сваім сэрцы і паверыць у цуд.

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА,
фота Кастуся Дробава

**— Якім быў ваш шлях у літаратуру — наколькі я ведаю, па адукацыі вы эканаміст?**

— Калі мне было сем гадоў і ў мяне пыталіся, кім хачу стаць, то адказвала, што хачу быць пісьменніцай. І з таго часу пачала пісаць вершы і марыла, што ўсё ж стану ёю. Калі скончыла гімназію, трэба было вызначыцца, куды паступаць. Паколькі ў мяне не было бацькоў, давялося выбіраць тое, што дапаможа жыць самастойна, — каб я магла атрымліваць стыпендыю. Таму пайшла на эканамічны факультэт і з-за гэтага была вельмі няшчасная: палохала, што пісьменніцай ужо не стану. Пасля таго як атрымала адукацыю, працавала ў банку і вялікім турыстычным агенцтве. Але за гэты час усё ж такі напісала два раманы. Потым перайшла на новую работу — у часопіс, была там рэдактарам, працавала журналістам, напісала трэці і чацвёрты раманы. І чацвёрты меў вялікі поспех. У той час мне было 33 гады. Я адважылася пакінуць работу, прысвяціўшы жыццё ўласнай літаратурнай творчасці. Пасля гэтага адкрыла выдавецтва, у якім выпускаю і свае кнігі, і кнігі іншых аўтараў.

**— Адкуль такая вялікая ўвага да рэлігійнай тэмы? І як паяднаць узвышанае і надзвычай свецкі жанр рамана?**

— У прынцыпе, я лічу, што кожная кніга аўтабіяграфічная, яна выяўляе душу аўтара. Я веруючы чалавек, праваслаўны. Калі пішу, чытаю кнігі святых айцоў. Таму мае раманы пранікаюць глыбока ў праваслаўе. Раман — гэта толькі спосаб аповеду. Аднак у іх — глыбінная вера, бо я імкнуся якраз выявіць спадчыну святых айцоў. Я не гуляю з вераю. Не пішу па дамоўленасці, на замову. Творы цікавыя чытачу, таму што ў іх займальная сюжэтная лінія. Але ж яны вельмі добра ўспрымаюцца царквой — і сербскай, і рускай. У тым ліку і беларускай мітраполіяй. Якраз таму, што я не парушыла спадчыны.

Многія людзі кажуць, што гэтыя творы іх мяняюць. Святары распавядалі: шмат хто прыйшоў да царквы і нават хрысціўся пасля таго, як прачытаў мае кнігі.

**— А што, на вашу думку, робіць кнігу бестселерам?**

— Не ведаю (*Ліляна лагодна ўсміхаецца. А ў вачах — непадробная шчырасць. — Т. К.*). Не ведаю. Любоў, якая ўзнікае ў чытача да кнігі. А яна невытлумачальная, як усялякая любоў. Яна нараджаецца недзе ўнутры.

**— Хаця б нешта ад аўтара залежыць? Як трэба пісаць?**

— Магу расказаць, як пішу. Я пішу тое, што ў маёй душы, тое, ува што веру. У якасці галоўных герояў бяру асоб, якіх адчуваю, разумею і люблю. Верагодна, гэтую шчырасць і ўлоўлівае, усведамляе чытач. Натуральна, пры гэтым кніга павінна мець і мастацкія вартасці.

Заўсёды стараюся зрабіць як мага лепш — на што толькі здатная. Я праз сябе прапускаю, перажываю тое, што ў маёй кнізе. Калі яны сумныя, я плачу. Калі ім баліць, то і мне баліць. Яны радуюцца — я радуюся. І прысвячаю, аддаю гераіням свае лепшыя малітвы. І ўсё гэта, напэўна, павінен адчуць чытач. Так і адбываецца: на літаратурных імпрэзах чытачы прызнаюцца, што плакалі, калі чыталі. А я адказваю, што і я плакала. Стварэцца нейкая эмоцыя, якая існуе і «працуе» ўвесь час, колькі існуе і чытаецца кніга.

ДАВЕДКА «ЛіМА»



*Ліляна Хаб'янавіч-Джуравіч шэсць разоў станавілася ўладальнікам прэміі «Залаты бестселер» і тройчы — «Спецыяльнага залатога бестселера». Яна і Добрыца Чосіч у 2001 годзе былі названы Міжнародным біяграфічным цэнтрам у Кембрыджы самымі вядомымі аўтарамі ў сваёй краіне. У 2007-м Свяцейшы Сінод Сербскай праваслаўнай царквы ўзнагародзіў пісьменніцу за яе літаратурную працу ордэнам святога Савы. Яна неадназова ўваходзіла ў сотню самых уплывовых рэгіянальных аўтараў планеты.*

*Сярод найбольш вядомых кніг Л. Хаб'янавіч-Джуравіч — «Женская родословная» (1996), «Павлинье перо» (1999), «Петкана» (2001), «Игра Ангелов» (2003), «Всех скорбящих радость» (2005).*

# Баляваць — дык у Віцебску!



Спрытныя дзяўчаты ў лёгкіх ампірных сукенках, хлопцы ў белых пальчатках, чароўныя гукі венскага вальса... Не, гэта не кадры з гістарычнага фільма і не вясёлая калядная вечарына. Гэта — сапраўдны шляхецкі баль, які паступова становіцца добрай сезоннай традыцыяй у Віцебску.

Зоя АЛЕКСАНДРОВІЧ

Тут усё як і дзвесце год таму — кантрадансы, гульні, маскарад, шляхецкі этыкет. Колькасць удзельнікаў з кожным разам толькі павялічваецца: моладзь з задавальненнем мяняе вольны вечар у модным па сучасных мерках клубе на магчымасць адчуць сябе сучаснікамі Напалеона і Жазэфіны. Арганізатары шляхецкага балю — Хрысціна Бондарава, загадчык літаратурна-драматычнай часткі Беларускага тэатра «Лялька», сябра і каардынатар па Віцебскай вобласці моладзевага грамадскага аб'яднання «Гісторыка», і Эля Петрачэнка, настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 2 горада, кіраўнік клуба культурна-гістарычнай рэканструкцыі «Паўночная вежа».

**— Распавядзіце, калі ласка, як так атрымалася, што Віцебск — бадай, адзін з нешматлікіх гарадоў Беларусі, у якім часта праводзяцца шляхецкія балі?**

**Эля Петрачэнка:** — Я ўжо не адзін год уваходжу ў клуб культурна-гістарычнай рэканструкцыі «Паўночная вежа», які працуе на базе культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо Віцебска "Дзвіна"». Пачыналі мы з рэканструкцыі Сярэднявечча (XV ст.), але гэта было вельмі цяжка: танцы часоў ВКЛ — сапраўдны прабел у гісторыі Беларусі. Ды што там танцы! Не зусім вядома нават, як людзі апраналіся ў той час. Канечне, дапамог «Полацкі сшытак», адноўлены гуртом «Стары Ольса», аднак у «Сшытку» шмат кампазіцый падпісана проста як «танец». Зміцер Сасноўскі выказаў меркаванне, што назвы былі настолькі вядомыя, што іх можна было і не падпісваць — усе і так пазнавалі музыку з першай ноты.

Калі займаліся XV ст., зразумела, шукалі танцы, ездзілі ў Піцер на спецыяльныя майстар-класы, прагледзелі безліч літаратуры, відэа, аднак дакладных звестак пра тое, што ў нас таксама так танчылі, не знайшлі. Таму праз два гады наш запал займацца сярэднявечнымі танцамі згас. Аднак я ўвесь час хацела правесці шляхецкі баль. Вычытала дзесьці, што Пётр I загадаў праводзіць асамблеі (так раней называліся балі) у Расійскай Імперыі. Я нават засмуцілася: няўжо іх раней не было. Потым, калі размаўлялі з У. Арловым, прыйшлі да высновы, што ў нас і без загаду танчылі. Да таго ж, паводле А. Мальдзіса, для нас гэта было звыкла, бо ўсе еўрапейскія навінкі хутка даходзілі да тэрыторыі сучаснай Беларусі. І тут я пазнаёмілася з Хрысцінай.

**Хрысціна Бондарава:** — Я таксама цікавілася і Сярэднявеччам, і XIX ст. Больш шчыльнае вывучэнне апошняга падавалася немагчымым — у «Гісторыкі» хоць і быў падобны праект, але ў Віцебску не было ні настаўніка па танцах таго часу, ні вялікай колькасці людзей, якіх можна было б зацікавіць. Неяк я патэлефанавала Элі і запыталася, дзе можна дастаць касцюм XIX стагоддзя. Так мы і пазнаёміліся: эпоху Сярэднявечча змяніла XIX ст. Летам была перагледжана вялікая колькасць матэрыялаў, мы з'ездзілі на майстар-класы ў Мінск, штосьці паглядзелі ў інтэрнэце. Такім чынам было адгледжана танцаў 40. Адмовіліся ад складаных, пакінуўшы самыя цікавыя і прыгожыя.



У мяне ўжо быў вопыт правядзення балю ў тэатры ў гонар Міхала Клеафаса Агінскага, гэта быў класічны для Беларусі баль з запрошанымі танцорамі. Аднак, пакуль я шукала інфармацыю пра баль XIX ст., выпадкова патрапіла ў інтэрнэце на артыкул полацкага гісторыка С. Шыдлоўскага. Ён пісаў пра касіны і рэдуты, — аказваецца, на Беларусі было такое баўленне часу шляхты, якіх ні ў Польшчы, ні ў Расіі, ні ва Украіне не было. Назва «касіны» паходзіць ад італьянскага слова «casino» (ігральны дом), бо на іх можна не толькі патанчыць, але і пагуляць у азартныя гульні. Звычайна нейкі камерсант прапаноўваў свой дом, куды людзі набывалі квіткі і добра бавілі час. Таксама гэтыя грошы маглі ісці на дабрачыннасць. Рэдуты больш вядомыя як балі-маскарады, прычым гэта было хутчэй гарадское мерапрыемства,а не шляхецкае. Паколькі гэта баль-маскарад, на яго мог прыйсці хто заўгодна: і бедны крамнік, у якога ледзь-ледзь хапала грошай на квіток, і дачка багатага шляхціца. Усе ж былі ў масках, хто дзе — сказаць складана, таму маладыя людзі маглі абсалютна вольна фліртаваць. Вось такая ў нас была дэмакратыя на балях! Так мы зразумелі, што касіны і рэдуты — выдатная асаблівасць беларускай культуры, і менавіта іх і вырашылі ладзіць у Віцебску. У лістападзе 2011 года ў культурна-гістарычным комплексе «Залатое кальцо Віцебска "Дзвіна"», якое вельмі дапамагае нам з арганізацыяй нашых мерапрыемстваў, адгрымеў першы баль.

Пасля мы сталі падтрымліваць і такія формы, як салоны і пікнікі. Летам вось ездзілі на пікнік у сядзібу Іллі Рэпіна ў «Здраўнева» і хоць не стараліся гэта арганізаваць шырока, паехалі 30 чалавек, прычым мы асабліва нават не афішавалі. Напярэдадні Новага 2012 года прайшоў шляхецкі салон: жывая музыка, танцы, паэты чыталі свае вершы. У мінулым годзе закрылі бальны сезон Шляхецкім балем. Ён атрымаўся самым вялікім: у філармоніі сабралася 120 чалавек. Наогул, да нас прыходзяць сябры, знаёмыя. Хтосьці затрымліваецца, хтосьці не. Затое калі некаторым даводзіцца з'язджаць з Віцебска, яны потым тэлефануюць і пішуць, што вельмі сумуюць па нашых балях. Цяпер плануем рэдуты, а закончым усё веснавым шляхецкім балем. Аднак яшчэ не вырашылі, як што зрабіць, бо катастрафічна не хапае часу: мы павінны і вучыць, і арганізоўваць, і распрацоўваць канцэпцыі.

**— Ці прытрымліваецеся вы якіх-небудзь прынцыпаў, калі ладзіце баль?**

**Х.Б.:** — Адразу робім акцэнт: баль для тых, хто ўмее танцаваць. Глядзець на тое, што адбываецца, могуць толькі бацькі, якія прыйшлі і прывялі сваіх дзяцей. Таму, каб патрапіць на баль, неабходна прайсці майстар-клас у нас ці ездзіць у Мінск. Канечне, бацькам таксама цікава — яны могуць выпіць гарбаткі, пагуляць у гульнявым салоне. Аднак мы лічым, што тут цікава толькі ў двух выпадках: альбо ты глядзіш на свайго дзіцёнка, як ён прыгожа танцуе: альбо танцуеш сам. Да таго ж, у XIX ст. баль меў камунікатыўную функцыю — тут наладжваліся нейкія справы, вырашаліся пэўныя пытанні, тут дамаўляліся пра шлюбы. Таму наш галоўны прынцып: баль патрабуе твайго актыўнага ўдзелу, ты не можаш тут быць пасіўным. Ты не глядач, які прыйшоў на канцэрт, але ўдзельнік. На дадзены момант стараемся ўвесці больш гульняў. Зразумела, плануем баль так, каб было цікава ўсім, аднак пры гэтым прытрымліваемся гістарычнасці.

Да балю звычайна рыхтуемся месяцы два — вызначаем танцы, разбіраем іх, дадаём нешта новае, каб цікава было. Кожны раз мы прыдумляем своеасаблівую канцэпцыю. Насамрэч, так і было: напрыклад, праводзіліся белыя балі, калі ўсе павінны былі прыйсці ў белым, ці ізумрудныя — людзі апраналі адзенне з элементамі зялёнага. На мінулых рэдутах, падчас самога балю-маскараду, мы зрабілі ўсё наадварот — па этыкеце кавалер запрашае даму, але тут мы дазволілі дамам «адыграцца» — яны запрашалі кавалераў. Нас наогул трое арганізатараў — дапамагае яшчэ і Фёкла Кухто, што працуе ў керамічнай майстэрні. Яна больш займаецца мастацкім афармленнем балю, кніжачкі і праграмкі вырабляе. Усё — у адпаведнасці з распрацаванай канцэпцыяй. Бальная кніжачка змяшчае спіс танцаў, насупраць — прозвішчы партнёраў, з якімі будуць танчыць удзельнікі. Такую кніжачку, да таго ж, можна захаваць на памяць.

На тых балях, дзе мы былі, бальныя кніжачкі ёсць, але яны ўмоўныя. Вось так мы неяк прыехалі на Мірскі баль: нікога не ведалі, нас там таксама мала хто ведаў, таму ні мы не мелі права запрашаць, ні нас, і, па сутнасці, функцыя балю не выконвалася.

Наша галоўная адметнасць у тым, што многія, хто арганізоўвае балі, стараюцца захоўваць прапорцыю, каб на аднаго кавалера было дзве дамы, не больш. Атрымліваецца, калі хочаш — альбо прыходзь са сваім кавалерам, альбо чакай, пакуль гэта прапорцыя парушыцца. Мы ж прымаем усіх.

**— Ці патрэбна нейкае асаблівае адзенне, калі ты жадаеш патрапіць на баль?**

**Э. П:** — У нас абавязковы дрэс-код, не строгі, зразумела, але сукенка павінна быць ніжэй калена, без гарсэта, закрытая спінка, пальчаткі. Мы робім акцэнт на ампірныя сукенкі. Звычайна замаўляем іх, выкрайкі ў нас ёсць, тканіна каштуе не вельмі шмат, асабліва калі гэта лён. У нас ужо па некалькі сукенак, бо ампірная сукенка — гэта такая рэч, што хочацца больш і больш. Не дзіва, што ў Жазэфіны іх было шэсць тысяч. Таму, хто толькі пачынае, пазычаем сукенку на першы баль. З кавалерамі прасцей — мы іх бяром з-за невялікай колькасці, таму, на жаль, яны не ў гістарычных касцюмах, хаця, канечне, некаторыя бяруць у тэатрах фракі. Але ў асноўным гэта строгі касцюм, белая кашуля, пінжак, бабачка. Між іншым, ампірную сукенку насілі толькі на пачатку XIX ст., але мы проста закаханыя ў яе!

**— Што скажаце наконт танцавальнага рэпертуару?**

**Х. Б.:** — Наогул, я люблю кантрадансы (танцы для неабмежаванай колькасці пар, калі першыя пары прасоўваюцца ўніз, а другія — уверх, таму пакуль датанцуеш танец, можаш пакамунікаваць з усімі), Эля — вальсы. Таму на адкрыцці бальнага сезона ў верасні мінулага года мы разбілі баль на дзве часткі. Адна складалася з вальсаў, другая — з кантрадансаў. Наогул, кантрадансы любяць усе, бо часам людзям проста няма з кім паразмаўляць. Дом, праца, тэлевізар — так жыццё і праходзіць. А калі людзі бачаць, што ў танцы можна размаўляць не словамі, але рухамі, поглядамі, спыніцца ўжо немагчыма. У вальса свая спецыфіка — ён больш інтымны, асабісты. Наогул, XIX ст. у параўнанні з Сярэднявеччам захапляе сваёй разнастайнасцю. Да таго ж, мы бачым, што танцы ў нас маюць сапраўды нейкую рэабілітацыйную функцыю, з аднаго боку, мы імкнёмся да гістарычнасці ў рэканструкцыі, а з іншага атрымліваецца, што ў нас людзі пачынаюць камунікаваць і сябраваць, іх аб'ядноўвае любоў да танца.

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Выдавецкі дом "Звязда"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль Акушэвіч, Лілія Ананіч, Алесь Бадак, Дзяніс Барсукоў, Святлана Берасцень, Віктар Гардзей, Уладзімір Гніламёдаў, Вольга Дадзіёмава, Уладзімір Дуктаў, Анатоль Казлоў, Алесь Карлюкевіч, Анатоль Крэйдзіч, Віктар Кураш, Алесь Марціновіч, Мікола Станкевіч, Мікалай Чаргінец, Іван Чарота, Іван Штэйнер

**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71

бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Выдавецкі дом "Звязда".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Выдавецкі дом "Звязда".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў

Наклад — 2698
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 24.01.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 43
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686